*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадо.*
**Якуб КОЛАС**

**№ 9 (4467)**

31 студзеня 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт – свабодны.



# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

## Жизнь не по средствам?

В Беларуси из года в год рост заработной платы в разы превышает рост производительности труда, что ни к чему хорошему не приведет. Продолжаем жить не по средствам. А сколько этих средств и как они распределены, сообщает Белстат, который собирает сведения о распределении размеров зарплат два раза в год – в мае и ноябре, а публикует в июле и январе. В последнюю выборку Белстата попали предприятия, суммарная численность работников которых 2,587 миллиона человек, что составляет 60% всех занятых в экономике. Статорганы дают размеры зарплат до выплаты налогов (подоходный налог – 13%) и отчислений (взнос в ФСЗН – 1%).

За 2019 год средняя зарплата по стране составила 1091 рубль, но 1524 рубля она была в Минске и 899–1098 рублей в областях. Так что ее 500-долларовый эквивалент в среднем за прошедший год не достигнут. Отстающей по этому показателю, как и раньше, является Могилевская область. Там пять районов, где 40 и более процентам работников начисляли зарплату ниже 500 рублей. В целом по стране 27% работников получают чистыми менее 500 рублей. Это примерно 450 тысяч человек.

Если принимать во внимание распределение средних зарплат по секторам экономики, то она остается традиционной. Например, в декабре в сфере информационных технологий заработали на одного занятого 4477,7 рубля, в финансах и страховании – 3011,8 рубля, в воздушном транспорте – 2875 рублей. Самые низкие зарплаты были в сфере социальных услуг (716,2 рубля), а также в библиотеках и музеях (721,6 рубля).

Медианная зарплата, то есть та, ниже и выше которой получают по равному количеству работников, составила, к примеру, по Минску 1088 рублей. Она всегда ниже просто средней и показывает материальное расслоение трудящихся. По Минской области этот показатель составляет 855 рублей, а самая низкооплачиваемая Витебская область – 758 рублей. На протяжении последних лет самым бедным районом Беларуси являлся Шарковщинский. За прошлый год антиконкуренцию ему составил Кормянский район, где зарплата в ноябре оказалась на 40 копеек меньше. В лидерах рейтинга среди городов Солигорск и Новополоцк, в которых высокие зарплаты обеспечивают соответственно «Беларуськалий» и «Нафтан», где заработки достигают 5000 рублей в месяц и более. В принципе, отставание медианной зарплаты от средней на 20–25%, как в Беларуси, еще божеское, и свидетельствует об умеренном расслоении работников по доходам. В России, к примеру, оно ужаснее, чем в богатых странах.

По средней зарплате самый высокооплачиваемый в Минске район – Первомайский, на территории которого находится Парк высоких технологий. В столице 13,2% работников имеют зарплату больше 2000 и 2,6% – выше 5000 рублей. Есть в стране и работники с зарплатой свыше 10.000 рублей. В Минске статистика насчитала 2682 таких труженика. Среди них хватает госуправленцев. Так, жалование от 4000 до 5000 рублей имели 94 человека, от 5000 до 7000 – 25 человек, от 7000 до 10.000 рублей – 6 чиновников и свыше 10.000 рублей – всего два, наверное, самых высших чиновника. Зарплата рядового парламентария «всего» 2700–2800 рублей. Можно и не хвастаться.

Высокая зарплата – это хорошо, как и хорошо, когда трудоспособный человек имеет работу с достойным заработком. Но плохо, когда он ее не имеет или теряет. Так вот, по итогам 2019 года наниматели на крупных и средних предприятиях уволили 736 тысяч человек, а приняты на работу были 690 тысяч человек. Потери в рядах занятых составили не менее 46 тысяч человек. Думаю, что в сфере малого бизнеса картина еще безрадостнее. Особенно на периферии. Так называемый коэффициент замещения уволенных работников принятыми снизился с 94,3% в 2018 году до 93,7% в прошлом году. Самый низкий коэффициент замещения, как можно догадаться, в нашем несчастном сельском хозяйстве (87,4%). А правительство продолжает планировать рост ВВП как за счет увеличения производительности труда, так и за счет увеличения количества трудозанятых. Самый обнадеживающий коэффициент замещения показал IT-сектор. Там приняли на 47,3% работников больше, чем уволили. Учитывая средние зарплаты в том же ПВТ, которые измеряются тысячами рублей, многие могут задаться вопросом: почему я еще здесь?

Для тех, кто не работает, кто добровольно пришел на учет в службу занятых да еще согласен на выполнение общественных работ, выплачиваемое пособие по безработице стыдное – не выше двух базовых величин (51 рубль). Таких у нас статистика насчитала 0,2% рабочей силы, или 10,2 тысячи человек. По методике Международной организации труда, безработных в стране 4%, или 203 тысячи человек. Среди безработных много молодежи (36%). В среднем человек ищет работу 8 месяцев. И, что характерно, среди безработных мужчин стало больше, чем женщин.

Еще с советских времен был правильный, как сейчас говорят, мем: любая работа у нас в почете. Действительно, все мы нужны друг другу. Главное, чтобы это работа была, и желательно с достойной оплатой, чего у нас порою сильно недостает. Но, подчеркну, зарплата должна быть заработана. Вот почему очень важно, чтобы ее увеличение не превышало рост производительности труда.

ПАЛІТКУХНЯ

## Губарэвіч запісаўся на прыём да Караева

Праўда, дата пакуль не прызначана. Не выключана, што сустрэча адбудзецца ў першых чыслах лютага.

Тэму размовы Юрась Губарэвіч фармулюе так: сістэмнае невыкананне міліцыянерамі абавязку правядзення праверак па заявах аб узбуджэнні крымінальных спраў і фактычнае пакрыццё злачынстваў па фальсіфікацыі выбараў.

“Будзе магчымасць на асабістым досведзе пераканацца, ці не разыходзяцца словы міністра пра новы імідж міліцыі з рэальнымі справамі”, – гаворыць Юрась Губарэвіч.

– Кожную першую сераду міністр унутраных спраў праводзіць сустрэчы з людзьмі, так што, спадзяюся, размова адбудзецца ў лютым, – *распавёў Юрась Губарэвіч “Народнай Волі”.* – Днямі я атрымаў чарговыя адказы з міліцыі і пракуратуры наконт фактаў фальсіфікацый падчас парламенцкіх выбараў. Пракуратура ў чарговы раз усё скінула ў міліцыю, а міліцыя напісала, што ўсе матэрыялы накіраваны на разгляд у выбарчыя камісіі. А выбарчыя камісіі даўно распусціліся, і ніякіх канцоў не знайсці! І ні мне, ні міліцыі яны па сутнасці прэтэнзій не адказалі, відаць, стараюцца забыць, што ўдзельнічалі ў фальсіфікацыях…

Зараз я разглядаю магчымасць альбо падаць заяву аб узбуджэнні крымінальнай справы супраць адказных супрацоўнікаў міліцыі, бо фактычна адбываецца ўтойванне звестак пра злачынства альбо непрыняцце мер, альбо падаць заяву ў Цэнтрвыбаркам.

**– Вы, канечне, малайчына, што працягваеце гэтую справу, не спускаеце яе на тармазах. Але ці верыце, што рэальна ўзбудзяць справу, што будзе канкрэтны вынік?**

– У прававой дзяржаве вынік быў бы. Бо закон утрымлівае канкрэтныя патрабаванні да міліцыі, пералічвае дзеянні, якія яны павінны выконваць. Але ў дадзенай сітуацыі атрымліваецца, што міліцыя – адна з частак злачыннай схемы па пакрыцці фальсіфікацый выбараў. Мая задача – паказаць гэта. І задаць пытанне пра гэта наўпрост і міністру. Каб не аказалася, што ягоныя спробы падвысіць аўтарытэт і палепшыць імідж ведамства ўпіраюцца ў старыя балячкі.

Калі б міліцыя дзейнічала адпаведна заканадаўству, праблем не было б.

Сёння мы назіраем зладжаную, супольную працу ўсіх дзяржаўных органаў па абароне фальсіфікатараў. І я хачу абмеркаваць усё гэта з міністрам Юрыем Караевым. Чаму міліцыя не выконвае свае абавязкі, чаму супраць фальсіфікатараў не ўзбуджаюцца крымінальныя справы, чаму яны не праводзяць праверку па заявах грамадзян, а фактычна працуюць паштовым аддзяленнем? Сведкі фальсіфікацый дасылаюць ім свае заявы, а яны перасылаюць іх у камісіі, а адтуль няма адказаў.

**Марына КОКТЫШ.**

ПАЗІЦЫЯ

## ...А толькі паліваюць брудам

Сацыяльныя сеткі гудуць, як пчолы ў вуллі. Эмоцыі зашкальваюць. Выбарам – ігнор! Не хадзіць! Не галасаваць! Не заклікаць! Не вылучацца! Інакш вы падтрымаеце і ўзмоцніце існуючы рэжым.

З якіх шчылін павылазіла столькі ігноршчыкаў і пафігістаў? Яны не выказваюць ніякіх канкрэтных прапаноў адносна стратэгіі і тактыкі палітычнай барацьбы, а толькі паліваюць брудам тых, хто дзейнічае і хоча змяніць сітуацыю да лепшага. Ім адказваюць актывісты-практыкі: “Вам, панове, не ўгодзіш. Перш папракалі, што апазіцыя не здольная аб’яднацца. А як аб’ядналася, то яшчэ мацней загаласілі”.

Масцітыя палітолагі не адстаюць. Маўляў, калі не дапускаеце магчымасці перамогі, то навошта плот гарадзіць? Я думаю інакш. У нашых умовах, калі балем правіць “моцная рука” і вайсковая сіла, калі на кожным участку па трое дзяжурных міліцыянераў і трывожная кнопка, калі ідуць несправядлівыя суды і прызначаюцца непамерныя штрафы, вылучацца кандыдатам на вышэйшую пасаду – гэта подзвіг. Гэта дэманстрацыя рашучасці плыць супраць цячэння (па цячэнні – куды лягчэй), гэта праява асабістай мужнасці, гэта, урэшце, прыкмета грамадзянскай адказнасці. Калі не я, то хто? Пры гэтым усе добра ўсведамляюць, што выбарамі мала дзе перамагалі самадураў. Азы паліталогіі! Дык пры якую “перамогу” разважаюць нашы ідэалісты і тэарэтыкі?

Аляксандр Фядута, які першы памахаў шабелькай, прайшоўся па Вользе Кавальковай, адзінай жанчыне сярод чатырох прэтэндэнтаў. Ну не можа ён уявіць яе ў кабінеце першай асобы дзяржавы. А што, няблага б выглядала – і ў кабінеце, і з экрана. Караля, як вядома, іграе світа. Хіба велічнасць Аляксандра Рыгоравіча не вынік падыгрывання і рабалепства ягонага атачэння? Мы не раз назіралі, як міністры ўнурваюць галовы, каб не сустрэцца з ім поглядам і не нарвацца на публічны разнос.

Адносна таленту “управления государством” павінна заўважыць, што ў прэзідэнцкае крэсла траплялі людзі розных прафесій, варта згадаць педагога Л.Джонсана, драматурга В.Гавела, электрыка Л.Валенсу, камедыйнага артыста У.Зяленскага... І “правяць” у нармальных краінах не столькі прэзідэнты, колькі дэпутаты і міністры, а



перад усім – Закон. Без першынства закона не было б Аб’яднанага Каралеўства і Злучаных Штатаў Амерыкі. Не было б Федэратыўнай Рэспублікі Германія (парламенцкай краіны, між іншым), у якой жанчына і хрысціянскі дэмакрат – прызнаны ў свеце лідар.

Існуюць працэсы, якія выспяваюць знутры. Гайкі нельга закручваць бясконца: можна сарваць разьбу. Нязручна стаяць урастапырку паміж Расіяй і Еўропай, пара ўсё ж ісці “за цывілізаваным светам”. Складана ўвесь час лавіраваць без стратаў для іміджу, як у той вядомай рускай скорагаворцы: лавіраваў-лавіраваў, ды… Небяспечна для будучыні разбураць нацыянальныя і светапоглядныя асновы, якія ствараліся і мацаваліся лепшымі сынамі Айчыны. Лідар, які гэтыя каштоўнасці не падзяляе ці, можа, нават не разумее, можа завесці народ хіба што ў багну.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, пісьменніца.**

КТО ЕСТЬ КТО

## Вместо Николая Снопкова – Виталий Бельский

Слышали? Новым заместителем главы Админи-страции президента назначен Виталий Бельский. Теперь он будет своеобразным экспертом всех экономических документов, которые будут ложиться на стол Александру Лукашенко.

**Николай Снопков** уедет послом Беларуси в Китай, но до этого он «окажет помощь и поддержку своему преемнику в Администрации президента».

***

**Валерий Бельский** родился в 1968 году в деревне Девошичи Белыничского района. В 1993 году окончил Белорусскую сельскохозяйственную академию. Карьеру начинал на должности экономиста в совхозе «Калиновский» Белыничского района. С 1995 года – на научной работе. С 2008 года – директор Института системных исследований в агропромышленном комплексе НАН.

С 2012 по 2015 год – помощник министра по промышленности и аграрному комплексу Евразийской экономической комиссии.

Короткое время работал в Академии наук. В 2016 году был назначен руководителем Института экономики.

С НАЗНАЧЕНИЕМ!

## Новые лица

**Бельский Валерий Иванович** назначен заместителем главы Администрации Президента Республики Беларусь.

**Богдан Геннадий Андреевич** также получил должность замуправляющего делами Президента Республики Беларусь.

**Кудревич Игорь Алексеевич** назначен директором Департамента по гуманитарной деятельности Управления делами Президента Республики Беларусь.

А.Лукашенко дал согласие на назначение:

**Зарянкина Вадима Владимировича** председателем Витебского горисполкома;

**Филановича Андрея Андреевича** главой администрации Московского района Бреста;

**Римашевского Алексея Ивановича** генеральным директором ОАО «Минский завод колесных тягачей»;

**Соколовского Дмитрия Владимировича** генеральным директором ЗАО «АТЛАНТ» – директором Минского завода холодильников;

**Богатыревой Валентины Васильевны** ректором Витебского государственного университета имени П.М.Машерова;

**Харитончика Дмитрия Ивановича** заместителем министра промышленности;

**Буйневича Андрея Сергеевича** заместителем министра промышленности;

**Воронович Ирины Николаевны** директором Департамента по туризму Министерства спорта и туризма;

**Лиса Андрея Ивановича** членом Минского облисполкома.

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Падвяла знешняя дэбіторская запазычанасць?

Як вядома, некалькі дзён таму ў службовых кабінетах не з’явіліся дырэктары ўсіх чатырох беларускіх цукровых заводаў.

Да гэтага часу ні КДБ, ні Следчы камітэт не зрабілі ніякіх афіцыйных заяў з гэтай нагоды, але на працоўных месцах і зараз няма ні дырэктара Гарадзейскага цукровага камбіната **Міхаіла Крыштаповіча**, ні дырэктара Слуцкага цукроварафінаднага камбіната **Мікалая Прудніка**, ні дырэктара Жабінкаўскага цукровага завода **Віктара Міронава**, ні дырэктара Скідальскага цукровага завода **Дзмітрыя Ягорава.**

Таксама невядомы лёс і кіраўніка Беларускай цукровай кампаніі **Дзмітрыя Кірылава**. Праўда, як паведаміла “Народнай Волі” інфармаваная крыніца, апошні знаходзіцца ў СІЗА КДБ.

Мы пастараліся спраўдзіць гэтую інфармацыю ў афіцыйнага прадстаўніка КДБ Беларусі **Андрэя Яраша**, але адказ быў такі:

– Без каментарыяў.

**– Магчыма, у бліжэйшы час ведамства рыхтуе нейкую афіцыйную заяву па “цукровай справе”?**

– Складана сказаць.

А вось генеральны пракурор **Аляксандр Канюк** коратка выказаўся з гэтай нагоды: *“Тое, што адбылося, гэта знешняя дэбіторская запазычанасць. Гэта тыя махлярскія схемы, якія заключаюцца паміж нашымі кіраўнікамі прадпрыемстваў і контрагентамі, у асноўным расійскімі”.*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

З-ЗА ПРАХАДНОЙ

## «Начальства просіць пацярпець»

Калектыў найбуйнейшага ў Гомелі прадпрыемства – ААТ “Гомсельмаш” – зноў перажывае не лепшы час. 2020 год, як публічна заяўляюць на прадпрыемстве, будзе годам “прыняцця і рэалізацыі няпростых рашэнняў”.

Пачаўся новы год на “Гомсельмашы” з вострага дэфіцыту абаротных сродкаў. Толькі спажыўцы Расійскай Федэрацыі завінаваціліся за раней пастаўленую ім прадукцыю 169 мільёнаў долараў. Заўважна знізіліся аб’ёмы продажу з прычыны ўзмацнення канкурэнцыі на рынку вытворчасці зерне- і кормаўборачнай тэхнікі. Тая ж Расія, дзе збывалася найбольшая частка гомсельмашаўскай прадукцыі, стала праз дзяржаўныя датацыі моцна падтрымліваць сваіх вытворцаў – яе сельгасарганізацыі набываюць сваю тэхніку са значнымі зніжкамі.

Ускладняецца сёлета сітуацыя ў арганізацыях холдынга “Гомсельмаш” і ў сувязі з іх высокай закрэдытаванасцю і неабходнасцю пагашаць бюджэтную пазыку.

Усе гэтыя ды некаторыя іншыя акалічнасці і змусілі кіраўніцтва “Гомсельмаша” пачаць сёлетні працоўны год толькі 13 студзеня і аб’явіць выхаднымі днямі ўсе наступныя пятніцы першага месяца.

Я меў папярэднюю дамову атрымаць каментарый ад намесніка генеральнага дырэктара па ідэалогіі, кадрах і сацыяльных пытаннях Аляксандра Канапацкага, але




часу ў яго на гэта, на жаль, не знайшлося. Таму пацікавіўся ў шараговых работнікаў ААТ “Гомсельмаш”, як успрынялі яны новыя выпрабаванні, што думаюць пра эканамічную сітуацыю на прадпрыемстве і ў краіне.

**Уладзімір, слесар-зборшчык:**

– Пасля Новага года выйшаў на працу 13 студзеня. З таго часу паціху працуем – па чатыры дні на тыдзень, у пятніцу – выхадны. За вымушаны выхадны абяцаюць плаціць дзве трэці ад тарыфу ці акладу. Сам я на “здзельшчыне”, па прынцыпе – дастань ды пакладзі на стол. Кваліфікацыю, канечне, улічваюць. Абяцаюць не пакрыўдзіць. Нам не прывыкаць. Як раней жылося, так і цяпер. Для мяне – нармальна.

**Аляксандр, фарбавальны цэх**:

– Год цяжкавата пачаўся. Плана няма, заказаў бракуе. Я працую на ўмовах пагадзіннай аплаты. Заробак, канечне, зменшыцца, бо робім няпоўны месяц. Раней у мяне 700 рублёў выходзіла. Зараз, я думаю, на 150–200 рублёў будзе менш. Начальства просіць пацярпець. Маўляў, іншага выйсця няма – ва ўсёй краіне складаная сітуацыя. Пацерпім. Я тут ужо сорак гадоў працую. Праз паўгода мне на пенсію – няма сэнсу куды-небудзь кідацца.

**Ананім з цэха мастоў**:

– Дзякаваць богу, ужо працуем. Прадукцыю толькі не можам пакуль рэалізаваць. Раней у лізінг аддавалі ці нават дарылі сельскай гаспадарцы. Я так разумею, што з фінансамі цяпер туга. Пры нармальнай загрузцы атрымліваў 900 рублёў. Зараз што будзе, не магу сказаць, бо не ведаю.

**Юрый, аператар**:

– Працуем – хто больш, хто менш. У мяне праца ёсць. Заробак яшчэ не атрымліваў – квіткоў жа яшчэ не давалі, у наступным месяцы даведаемся. Даводзіцца прыстасоўвацца, бо ісці асабліва няма куды. Тут усё ж вялікі калектыў. Адмахнуцца ад нас не так проста.

**Эканаміст, якая не захацела назваць сваё імя**:

– Мы за свой кошт былі ў адпачынку да 13 студзеня. Рабочыя, яны яшчэ могуць штосьці патрабаваць. А ІТР – сядзі і маўчы. Не падабаецца – звальняйся. Нешта не бачна, каб справы наладжваліся. Складаней стала закупляць метал, камплектуючыя. Усё ўпіраецца ў фінансы.

***

Вядома, што “Гомсельмаш”, дзе працуе больш за 8 тысяч чалавек, заняты зараз дыверсіфікацыяй рынкаў збыту, каб павялічыць продаж прадукцыі ў краінах блізкага і далёкага замежжа і такім чынам кампенсаваць страты ад зніжэння выручкі ў Расіі, Казахстане і ва Украіне.

Навукова-практычны цэнтр камбайнабудавання ААТ “Гомсельмаш” заявіў пра выпрабаванне амаль двух дзясяткаў узораў новай тэхнікі. Гэта камбайны, энергасродкі, жаткі, у тым ліку ротарны збожжаўборачны камбайн КЗС1119Р. Выпушчана першая прамысловая партыя камбайнаў КЗС-3219КР, на канвееры КЗС-1624 на паўгусеніцах.

У студзені 2018 года паведамлялася, што 60–75 працэнтаў акцый ААТ “Гомсельмаш” мае намер купіць кітайская кампанія “Цзуншэнь”. Дзяржава прапаноўвала акцыі холдынга ў абмен на інвестыцыі ў 500 мільёнаў долараў. Але кітайцы ўрэшце адмовіліся, паколькі беларускі бок патрабаваў захаваць наяўныя віды дзейнасці, зрабіць мадэрнізацыю ды ставіў некаторыя іншыя абавязковыя ўмовы.

Летась у кастрычніку Аляксандр Лукашэнка заяўляў ужо пра дамову з кіраўніком Казахстана Касым-Жамартам Такаевым наконт продажу буйнога пакета акцый “Гомсельмаша”. На наступны дзень дзяржаўнае інфармагенцтва БЕЛТА паведаміла, што ў Казахстане гатовы інвеставаць 50–120 мільёнаў долараў у стварэнне вытворчасці кампанентаў для беларускага “Гомсельмаша” замест куплі пакета акцый холдынга. Але больш ніякай інфармацыі не было.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ.**
*Гомель.*

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# Жизнь – не сахар

Похоже, задержали – или уже арестовали – директоров Скидельского сахарного завода Дмитрия Егорова, Городейского – Михаила Криштаповича, Слуцкого – Николая Прудника и Жабинковского – Виктора Миронова, а также главу Белорусской сахарной компании Дмитрия Кириллова. На работе они который день не появляются, комментариев не дают.

Не дают комментариев и следственные органы – во всяком случае в лице пресс-секретаря КГБ Беларуси Андрея Яроша. Когда я ему позвонил, то услышал: «Пока без комментариев». Может быть, пока газета будет печататься, кто-то что-то и скажет. Но вчера до обеда все, кроме прессы, молчали.

Представляю себе, что думает досужий обыватель, узнав из газеты или интернета об очередной серии, так сказать, корпоративных арестов.

– Дожили! Сажают пачками! Раньше сажали врачей – теперь сахарозаводчиков.

Журналисты, еще помнящие времена российско-белорусского «братства взасос», тяжело вздохнут:

– Ну да, дожили! Раньше премьер-министр России разворачивал свой самолет над Атлантикой, узнав о бомбардировке Сербии. Сейчас наши родные спецслужбы разворачивают самолет над Польшей, чтобы снять с его борта директора сахарного завода.

Действительно: дожили.

Я не защищаю менеджеров «сладкой отрасли». Адвокаты у них найдутся без меня, причем хорошо оплачиваемые адвокаты. Тем более что пока говорить не о чем: суть обвинений, предъявляемых им, широкой публике не известна, а сахар и кондитерские изделия дорожают не столь разительно, как дорожают лекарства. Но настораживает несколько тенденций.

Во-первых, то, что под подозрением, насколько можно судить, одновременно оказались все руководители отрасли. То есть поголовно. Как если бы жили мы на благополучно загнивающем Западе, где есть понятие «картельного сговора» – это когда все производители какого-либо продукта договариваются между собой либо об удержании равно высокой цены на этот продукт, либо, наоборот, о ценах демпинговых, заведомо низких, чтобы не пустить, скажем, на рынок нежелательного конкурента. Тогда было бы все понятно: сговорились, гады, так вот сейчас родная власть запустит в ход всю мощь антимонопольного законодательства и наведет порядок. Но цена на белорусский сахар у нас, насколько можно понимать, контролируется достаточно жестко. Тогда – в чем же дело?

Во-вторых, массовые посадки представителей той или иной сферы производства товаров и услуг никогда не сказываются положительно на их качестве и цене. Вернемся к тем же врачам и фармацевтам. Ну, арестовали их. Некоторых судили. У кого-то даже попытались отобрать все, что было нажито, по мнению следствия, не вполне законным путем. И – как это сказалось на населении? Аспирин дешевле стал? «Небилета» в аптеках прибавилось? Как завсегдатай славных заведений под зелеными светящимися крестами могу с уверенностью сказать: цены не упали, ассортимент богаче не стал. Тогда зачем были все эти показательные аресты и шумные процессы? Ради чего?

Или – ради кого?

Точно – не ради нас. Жизнь рядового потребителя слаще от этих арестов не становится. Как не стали мы здоровее от арестов в сфере медицины и фармакологии. Получается, что не связано это.

Тогда – что связано?

Обсуждаются две версии. Как, впрочем, обсуждались они и во время «дела врачей».

Первая – сугубо по бизнесу. Освобождают место на рынке для какого-то нового игрока, который должен появиться и заработать «по-крупному». Понятно, что опытные директора-сахарозаводчики оказываются серьезной помехой. С их связями, влиянием, умением работать они могут придумать что-нибудь, что спутает карты лоббистов этого нового «игрока».

Вторая – наполовину бизнес, наполовину политика. Дескать, сахарная отрасль готовится к приватизации, покупатель уже определен, так нужно убрать директоров, чтобы те не подняли гвалт (вот, любит же наше начальство это слово – «гвалт»!) в трудовых коллективах.

Не слишком верю в обе эти версии. Бизнес бизнесом, а политика политикой. В стране на носу президентские выборы, возможно, совмещенные, а возможно, и не совмещенные с референдумом об изменении Конституции. Определенным структурам во власти нужно зарабатывать баллы, демонстрируя свою эффективность. Вот таким образом ее и можно продемонстрировать. Разворачивая самолеты в воздухе. Приковывая внимание к одновременному невыходу на работу директоров заводов целой отрасли. Пока выборы не состоялись и «Плошча» не заговорила, камеры в СИЗО если не пустуют, то во всяком случае не переполнены. Так почему бы не использовать их по назначению? Вот, использовали. Показали, что жизнь – даже у директоров сахарных заводов – не сахар. Впрочем, сладкой жизни никто и не обещал.

А вот насчет цен, которые не снизятся, я, кажется, проявил излишний оптимизм. Да, они не снизятся. Они, пожалуй, повысятся. Не сразу. Месяца через два. Но – ощутимо. Сахар – не бензин, тут ведь не копейкой цена регулируется, а гривенником. То-то я в магазине заметил, как одна из моих соседок вдруг купила несколько пачек сахара. Сезон заготовок не начался, а она – уже… Чувствует народ что-то, беспокоится.

ЖИЗНЬ КАК ОНА ЕСТЬ

# Полтора и два рубля

*Такие доплаты к пенсиям с 1 февраля получат неработающие пенсионеры в возрасте 75+ и 80+.*



Как известно, с 1 февраля в Беларуси в очередной раз повышается бюджет прожиточного минимума (БПМ) – до 239,87 рубля (было 231,83). К БПМ привязаны некоторые виды доплат, а также минимальная трудовая и социальная пенсии.

Прибавка – это, конечно, всегда хорошо. Но в некоторых случаях она составляет в прямом смысле копейки. Так, например, неработающие пенсионеры в возрасте от 75 лет и выше, наверное, даже и не заметят, что их пенсии несколько вырастут. С 1 февраля доплата к пенсии неработающих пенсионеров, перешагнувших 75-летний возраст, составит всего лишь 1 рубль 51 копейку, а тех, кому за 80, – 2 рубля. Не на всякую буханку хлеба хватит.

Совсем на чуть-чуть вырастут социальные пенсии. Их получают те белорусы, которые не заработали трудовую пенсию, назначаются они мужчинам с 65 лет, женщинам – с 60. С 1 февраля размер такой пенсии увеличится на… 4 рубля и составит 119 рублей 94 копейки. Незначительно вырастут и минимальные трудовые пенсии – с 229 до 245,12 рубля. Для сравнения: в соседней Литве эти пенсии в два раза выше – 203 евро, или 470 рублей. В Польше с 1 марта минимальная пенсия будет составлять 232,5 евро, также с апреля этого года польским пенсионерам ежегодно будут выплачивать 13-ю пенсию в размере 282 евро!

Подробнее о том, какими с 1 февраля будут в Беларуси прибавки к некоторым видам пенсий и пособий, читайте в таблице.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

| Вид пенсии или надбавки | в % от БПМ | с 1 февраля, в рублях | до 1 февраля, в рублях | Размер прибавки, в рублях |
|---|---|---|---|---|
| **Минимальны размер пенсии по возрасту** *(назначается лицам, имеющим стаж 25 (20) лет у мужчин и женщин)* с учетом доплаты в размере 20% средней заработной платы для исчисления пенсий | | **245,12** (59,97 –минимальный размер, 185,15 – доплата) | **229,05** (56,01 –минимальный размер, 173,04 – доплата) | 16,07<br>3,96<br>12,11 |
| **социальная пенсия инвалидам** 1-й группы, в том числе инвалидам с детства | 110 | 263,86 | 255,01 | 8,85 |
| инвалидам с детства 2-й группы | 95 | 227,88 | 220,24 | 7,64 |
| инвалидам 2-й группы (кроме инвалидов с детства), детям в случае потери кормильца | 85 | 203,89 | 197,06 | 6,83 |
| инвалидам 3-й группы | 75 | 179,9 | 173,87 | 6,03 |
| **детям-инвалидам до 18 лет при степени утраты здоровья** | | | | |
| первой | 80 | 191,9 | 185,48 | 6,43 |
| второй | 85 | 203,89 | 197,06 | 6,83 |
| третьей | 95 | 227,88 | 220,24 | 7,64 |
| четвертой | 110 | 263,86 | 255,01 | 8,85 |
| **Доплаты к пенсиям неработающим пенсионерам, достигшим:** | | | | |
| 75 лет | 75% | 44,98 | 43,47 | 1,51 |
| 80 лет | 100% | 59,97 | 57,96 | 2,01 |
| **Социальная пенсия лицам, достигшим возраста: мужчины – 65 лет, женщины – 60** | 50 | 119,94 | 115,92 | 4,02 |
| **Пособие по уходу за инвалидом 1-й группы либо лицом, достигшим 80-летнего возраста** | | | | |
| При осуществленни ухода за одним лицом | 100% | 239,87 | 231,83 | 8,04 |
| При осуществленни ухода за двумя и более лицами | 120% | 287,84 | 278,19 | 9,65 |
| **Пособие в связи с рождением ребенка (единовременное):** | | | | |
| При рождении первого ребенка | 10 БПМ | 2398,70 | 2318,3 | 80,4 |
| При рождении второго и последующих детей | 14 БПМ | 3358,18 | 3245,6 | 112,58 |

РАКІРОЎКА

## Мікалай Снапкоў з’язджае ў Кітай

*А Кірыл Руды вяртаецца ў Мінск.*



Пра гэтае прызначэнне чуткі хадзілі даўно, але ўчора яно нарэшце адбылося.

Як паведамляе тэлеграм-канал “Пул першага”, Аляксандр Лукашэнка растлумачыў сваё рашэнне наконт Снапкова: “У *Мікалая Генадзьевіча выдатныя адносіны з кіраўніцтвам КНР. Яго ведаюць усе*”.

Пра тое, колькі Снапкоў прабудзе ў Кітаі, кіраўнік дзяржавы сказаў так: “*Рэалізуеце задачы за год, значыць, вернецеся. За два – значыць два. Важны вынік*”.

“*Шчасце для нас, што мы ў свой час выбралі курс на сяброўства з Кітаем. Галоўнае – гэта пытанні эканомікі. Трэба гэты дом палітыка-дыпламатычны паставіць на трывалы падмурак*”, – падсумаваў прызначэнне амбасадара А.Лукашэнка.

**Вера ВІР.**

ВІНШУЕМ!

## Зміцер Паліенка і Наста Гусева яшчэ раз ажаніліся

*Гэтым разам яны зарэгістравалі шлюб афіцыйна.*

Нагадаем, што напрыканцы мінулага года анархіста Паліенку прызналі вінаватым у асабліва злосным хуліганстве, яму вынеслі прысуд – 3 гады “хатняй хіміі” (абмежаванне волі без накіравання ў папраўчую ўстанову). Мінус год Змітру “скінулі” па амністыі.

Яшчэ падчас судовага працэсу хлопец з турэмнай клеткі зрабіў прапанову рукі і сэрца сваёй нявесце, якая не прапускала ніводнага судовага пасяджэння.

*“Гэта было для мяне прыемнай нечаканасцю, калі Зміцер вырашыў зрабіць прапанову такім вось арыгінальным чынам,* – кажа **Наста Гусева.** – *Абстаноўка была не самая рамантычная, але, мяркую, запомніцца на ўсё жыццё.*

*Дарэчы, нават у тым выпадку, калі б прысуд быў больш жорсткі і Змітра накіравалі б у месца пазбаўлення волі, мы ўсё роўна распісаліся б. Сыходзілі з горшага варыянта і разлічвалі, што Дзіма атрымае 10 гадоў зняволення”.*

Наста распавядае, што да суда распісацца было немагчыма, бо яна праходзіла ў справе як сведка.

*“Вырашылі, што ажэнімся альбо ў СІЗА, альбо ў калоніі ў выпадку абвінаваўчага прысуду*, – дадае наша суразмоўца. – *Але, калі Зміцер атрымаў “хатнюю хімію”, то вырашылі не адкладваць вяселле на потым. Афіцыйна пабрацца шлюбам мы не маглі, бо Змітру не аддавалі пашпарт, таму вясельнае мерапрыемства правялі ў маёй вёсцы.*

*Конкурсаў і белых сукенак у нас не было, запрасілі толькі самых блізкіх людзей. На беразе рэчкі і прайшла неафіцыйная шлюбная цырымонія, яе правёў наш агульны знаёмы.*

*Далі клятву любіць і паважаць адзін аднаго, абмяняліся заручальнымі пярсцёнкамі. Усё было даволі сціпла, але дастаткова весела і прыгожа – з музыкай і салютам.*

*А зараз, калі Зміцер атрымаў пашпарт, пабраліся і афіцыйным шлюбам”.*



**Віктар ШПАК.**

**P.S.** *Паводле некаторай інфармацыі, 14 лютага ў Вярхоўным судзе адбудзецца разгляд касацыйнай скаргі Змітра Паліенкі на рашэнне Мінскага гарадскога суда.*

РЭГІЁН

## Гродзенцы сабралі грошы на штрафы апазіцыянерам

Усяго за ўдзел у акцыі супраць “паглыбленай інтэграцыі” паміж Беларуссю і Расіяй у Гродне былі аштрафаваны 5 чалавек. Сума штрафаў склала 3060 рублёў, да якіх пазней дадаліся яшчэ 15 базавых велічынь (405 рублёў), на якія аштрафаваны актывіст Мікола Салянік за непавагу да суда (ён прымацаваў сябе ланцугом да стойкі ў судовай зале).

Грамадскія актывісты праз пляцоўку https://molamola.by звярнуліся да гродзенцаў з просьбай дапамагчы ім аплаціць гэтыя штрафы.

“*Мы размясцілі простую кароткую аб’яву пра тое, што правялі акцыю на Старым мосце супраць так званай інтэграцыі, і папрасілі дапамогі*, – распавёў “Народнай Волі” адзін з актывістаў Сяргей Верамеенка. – *Аказалася, што людзі ведаюць пра гэта. Яны пачалі дасылаць хто колькі можа. Пішуць каментарыі ў нашу падтрымку”.*

Верамеенка распавядае, што да яго на працу прыходзяць нават незнаёмыя людзі і перадаюць сродкі на штрафы.

– *Было і такое: чалавек сказаў, што ён нас бачыў на мосце, але не адважыўся падысці, а калі даведаўся, што патрэбны грошы на штрафы, – адразу адазваўся*, – кажа Верамеенка.

Такім чынам пры дапамозе неабыякавых гродзенцаў штрафы ўжо аплацілі **Уладзімір Арцыман, Ежы Грыгенч** і **Сяргей Верамеенка**. Сабрана значная сума ў дапамогу **Вадзіму Саранчукову** і **Мікалаю Саляніку**.

## У кіраўніка Лідскага раёна з’явіўся прэс-сакратар

Пакуль гэта адзіны раён у вобласці, дзе ўвялі пасаду прэс-сакратара для старшыні райвыканкама. Ініцыятыва была падтрымана Міністэрствам інфармацыі Беларусі. Падобны вопыт плануецца распаўсюдзіць і на іншыя рэгіёны краіны.

Дарэчы, прэс-сакратаром кіраўніка Лідскага раёна прызначана былая журналістка з “Ліда-ТБ” Марына Грыгор’ева.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## Абласны суд не задаволіў скаргу актывіста

Алесь Масюк скардзіўся на рашэнне раённага суда, паводле якога яму было адмоўлена ў іску да Слонімскага раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі, кіраўніцтва якога не прыняло яго на працу. Аб гэтым “Народная Воля” пісала ў адным з папярэдніх нумароў.



У прыёме на працу загадчыкам аддзела па асноўнай дзейнасці яму адмовілі з прычыны нібыта неадпаведнасці яго кваліфікацыі гэтай пасадзе. Але раённы суд вынес рашэнне аб адмове ў іску ўжо па іншай прычыне.

Раённы суд палічыў, што, нягледзячы на тое, што ў даведніку прафесій не ўказана неабходнасць для суіскальніка пасады, на якую прэтэндаваў Алесь Масюк, адпавядаць палажэнням дэкрэта прэзідэнта №5, яны ўсё ж з’яўляюцца дадатковымі кваліфікацыйнымі патрабаваннямі. Паводле меркавання суда, дэкрэт прэзідэнта мае вышэйшую юрыдычную сілу за дадзены даведнік. У раздзеле “Дадатковыя патрабаванні да кандыдатаў” дэкрэта ёсць палажэнне аб “звальненні па дыскрэдытуючых абставінах”, а Масюк калісьці быў звольнены быццам за прагул.

У абласным судзе Масюк настойваў на тым, што раённы суд прымяніў няправільную норму закона.

– Іск я падаваў на тое, што мне адмовілі ў прыёме на працу ў сувязі з “неадпаведнасцю кваліфікацыі”, хаця мой педагагічны стаж налічвае 10 гадоў, – настойваў Масюк. – А таму лічу, што вывад раённага суда аб правамернасці адмовы мне ў прыёме на працу не адпавядае абставінам справы.

Тым не менш абласны суд пакінуў рашэнне Слонімскага раённага суда без змен. Алесь Масюк мае намер абскардзіць рашэнне абласнога суда.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ПОГЛЯД

# Дзяржаўны суверэнітэт ці яго заняпад: якім будзе выбар Беларусі?

Падзеі апошніх тыдняў вакол так званай паглыбленай інтэграцыі з Расіяй прымушаюць задумацца аб тым, што далей чакае Беларусь. Цяжка быць прарокам у сваёй Айчыне. Аднак тая вакханалія з судовымі працэсамі над грамадзянамі, якія выйшлі на вуліцу, каб абараніць Незалежнасць краіны, не проста нагадвае маразм, але і дае падставы казаць, што самае горшае яшчэ наперадзе.

**Па-першае**, важна ўсвядоміць, што незалежнасці Беларусі ўсяго нейкіх трыццаць гадоў. Невыпадкова, што сярод праціўнікаў паглыбленай інтэграцыі з Расіяй пераважную большасць складаюць маладыя людзі, якія нарадзіліся пасля распаду Савецкага Саюза і, падрастаючы, адчулі смак незалежнага жыцця. Канстатуючы гэты факт, я ні ў якім разе не хачу прынізіць ролю тых асоб, якія ў мінулым паклалі сваё жыццё на алтар свабоднага і незалежнага развіцця Айчыны. Больш за тое, я схіляю галаву перад іх светлай памяццю. Зразумела, што ў сённяшняй Беларусі, напэўна, значная частка яе жыхароў таксама выступае за незалежнае яе існаванне, аднак рэальных актыўных крокаў у абарону такога існавання не прадпрымае і наўрад ці ў далейшым будзе прадпрымаць. Прычына гэтага бачыцца мне ў менталітэце беларусаў і звязанай з ім нізкай нацыянальнай свядомасцю, а таксама нагнятаннем страху з боку сучасных улад.

**Па-другое**, пэўныя крокі па транзіце ўлады ў Расіі, з аднаго боку, сведчаць аб тым, што Беларусь не разглядаецца сёння як важны чыннік такога транзіту, з другога – што трываласць яе незалежнасці будзе правярацца ўжо не толькі эканамічнымі (падпісаннем дарожных карт, спрэчкамі па цане на нафту і газ, рознымі забаронамі на імпарт беларускай прадукцыі і інш.), але і ваенна-палітычнымі метадамі (імкненнем стварыць наднацыянальныя органы кіравання саюзнай дзяржавы, праводзіць сумесныя ваенныя вучэнні, захаваць на тэрыторыі Беларусі ваенныя аб’екты і г.д.). Пара нарэшце ўсім усвядоміць, што сутнасць імперскай палітыкі Расіі застаецца ранейшай, змяняюцца толькі метады. Сённяшнія крамлёўцы апантаны жаданнем пашырыць сваё ўздзеянне на постсавецкія рэспублікі. Невыпадковым выглядае імкненне прэзідэнта Расіі У.Пуціна да захавання ўлады шляхам змянення яе Канстытуцыі. На імперскіх пачуццях жыхароў краіны працягваюць гуляць і іншыя высокія асобы. За прыкладамі хадзіць далёка не трэба, падзеі ва Украіне яскравае таму сведчанне.

Памятаючы аб тым, што Беларусь для Расіі – гэта найперш фарпост на заходніх яе межах, наша краіна заўсёды будзе разглядацца імі, імперцамі, як абарончы рубеж і транзітная тэрыторыя, а не моцная самастойная незалежная дзяржава. Выхад Украіны з арбіты ўплыву Расіі прымушае апошнюю да больш пільнай увагі да Беларусі.

**Па-трэцяе**, пагаршэнне эканамічнай сітуацыі ўнутры Беларусі ў бліжэйшай перспектыве, якое не выклікае сумненняў не толькі ў экспертаў, але і ў шараговых грамадзян, паспрыяе таму, што ўсё большая частка насельніцтва да праблемы самастойнага незалежнага развіцця будзе ставіцца раўнадушна. Гэта дасць штуршок да актывізацыі “русского мира” і рускамоўнай часткі жыхароў нашай краіны, і найперш ваенных, чыноўнікаў, якія не ўяўляюць свайго існавання ў адрыве ад “вялікай” Расіі і толькі чакаюць спрыяльных умоў для аб’яднання.

У кантэксце аналізуемай праблемы я разглядаю і той факт, што А.Р.Лукашэнка гатовы пайсці на чарговыя прэзідэнцкія выбары. У людзей майго пакалення, народжаных у сярэдзіне 50-х гадоў XX стагоддзя, знікае надзея дажыць да новага прэзідэнта. Пра людзей больш сталага ўзросту і казаць не даводзіцца. Такая апантанасць у імкненні захаваць уладу, а значыць, закансерваваць існуючы парадак, па-першае, на мой погляд, прывядзе да больш актыўнай эміграцыі моладзі, па-другое, паспрыяе яшчэ большаму росту апатычных настрояў у асяроддзі выбаршчыкаў, па-трэцяе, затармозіць эканамічныя рэформы і дэмакратычныя пераўтварэнні і тым самым адкіне Беларусь на задворкі Еўропы.

Ці магчыма змяніць сітуацыю да лепшага? Мяркую, што можна. Так лічаць і іншыя даследчыкі. Вось што піша В.К.Дрозд, аўтар вельмі цікавай кнігі “Беларусь. Есть право выбора!”, якая выйшла ў 2019 годзе (на жаль, накладам усяго 50 асобнікаў): *“Выход Беларуси из тупиковой ситуации в экономике, политике, культуре, других сферах деятельности государства можно найти. Но осуществить его может только смелый, в некоторой мере рисковый человек. Его можно выявить посредством объявления конкурса “Если бы я стал президентом”*. Далей аўтар піша, якім чынам гэты конкурс арганізаваць і хто можа ў ім удзельнічаць. Можна спрачацца па тых ці іншых момантах, аднак нельга адмовіць аўтару ў разуменні неабходнасці правядзення шырокай дыскусіі па пошуку выйсця з глыбокага крызісу, у якім апынулася Беларусь на чале з цяперашнім прэзідэнтам. Калі казаць коратка, на сённяшні дзень у краіне склалася супярэчлівая сітуацыя, у якой, з аднаго боку, сам прэзідэнт апынуўся закладнікам таго, што стварыў чвэрць стагоддзя, з другога – закладнікам яго палітыкі стаў народ. Напэўна, плануемыя змяненні Канстытуцыі Беларусі павінны дапамагчы развязаць гэты клубок супярэчнасцяў. Аднак няма гарантыі, што такія змяненні не будуць скіраваны толькі на змену ўлады па вертыкалі і не паўтораць вопыт плануемых канстытуцыйных змяненняў суседняй Расіі. Адным словам, краіне патрэбна шырокая дыскусія па самых розных аспектах жыцця. Замежны і ўласны вопыт апошніх дзесяцігоддзяў сведчыць, што калектыўны розум мае істотную перавагу перад аўтакратычнымі рашэннямі аднаго чалавека. Нават калі такія рашэнні прадыктаваны “благими намерениями”.

Вывад напрошваецца адзін: неабходна даць магчымасць самому народу вырашаць свой лёс. **Незалежнасць – гэта скарб, які нельга страціць, інакш нашы нашчадкі проста не зразумеюць нас і ніколі не даруюць, калі Беларусь, не дай Бог, ізноў стане “Северо-Западным краем”.**

**Вячаслаў САСНОЎСКІ,**
**кандыдат геаграфічных навук, дацэнт.**

*г.п.Смілавічы.*

SOS!

# Каб Палессе не ператварылася ў Сахару

*Настаўнік і грамадскі актывіст з Лоева Мікалай Анісавец ініцыяваў на электронным сэрвісе petitions.by збор подпісаў пад зваротам да прэм’ер-міністра Беларусі Сяргея Румаса – «Спыніць высушванне Палесся».*



У звароце, у прыватнасці, адзначаецца, што Палескі рэгіён з прычыны недахопу вады фактычна патрапіў у зону экалагічнага бедства. І не толькі з-за неразумнай татальнай меліярацыі ў савецкі час, але і з-за нігілістычнага стаўлення да гэтай праблемы цяперашніх улад. Ідзе «сахарызацыя» Палесся. Землі высушаны, свае ападкі над рэгіёнам не ўтвараюцца, а рэдкія дажджы з Балтыкі ды Прычарнамор’я калі і даходзяць, то іх вада хутка скочваецца праз адкрытыя меліярацыйныя каналы ў бліжэйшыя абмялелыя рэкі.

– Зараз узровень грунтовых вод у рэгіёне на 1,5–2 метры ніжэй, чым у 1990-я гады, – кажа ініцыятар звароту ва ўрад Мікалай Анісавец. – У вёсках знікае вада ў калодзежах, вымерлі рапухі і жабы. Буслы перабраліся ў даліны Дняпра і Прыпяці. Масава высыхаюць лясы. Летам бракуе вады, каб тушыць пажары.

Лоеўскі актывіст дадае, што і сельская гаспадарка ў рэгіёне апынулася ў крызісным стане. Ураджайнасць традыцыйных культур зніжаецца да ўзроўню сярэдзінных гадоў мінулага стагоддзя. Практычна ўсе раёны Гомельскай вобласці рашэннем урада аднесены да раёнаў з неспрыяльнымі ўмовамі вядзення сельскагаспадарчай вытворчасці.

Падпісанты звароту прапануюць ураду даць аператыўныя ўказанні кіраўнікам мясцовых органаў улады зачыніць выпускныя шлюзы, а дзе іх няма, перасыпаць меліярацыйныя каналы, каб максімальна затрымаць любую веснавую ваду на землях Палесся. Прапануецца змяніць стратэгію сельскагаспадарчай вытворчасці – браць пад увагу не тэмпы пасяўных кампаній, а захаванне воднага балансу, вільготнасці глебы і амбарную ўраджайнасць.

Мэтазгодна адшукаць фінансавыя сродкі, каб запоўніць з выкарыстаннем веснавой вады ўсе наяўныя ў рэгіёне вадасховішчы, у тым ліку і перасохлае Лоеўска-Брагінскае вадасховішча.

Як адзначаецца ў звароце, наспела вострая неабходнасць распрацоўкі дзяржаўнай праграмы рацыянальнага ўзнаўлення раней асушаных балот дзеля аднаўлення клімату і стварэння неабходных умоў развіцця сельскагаспадарчай вытворчасці.

**Анатоль ЛІПСКІ.**

**На здымку: Лоеўска-Брагінскае вадасховішча.**

КАДРЫ

## Солигорский автопарк возглавил… генерал-майор милиции (запаса)

Речь о Владимире Андреевиче Захарчуке. В столице шахтеров его помнят как начальника уголовного розыска РОВД, а затем и руководителя этого районного отдела внутренних дел.

В 2008 году Захарчук пошел на повышение. Был переведен в Гомель, где вначале занял должность первого заместителя начальника УВД Гомельского облисполкома, а впоследствии и возглавил Гомельское УВД.

По поводу его назначения после ухода с милицейской службы в запас директором Солигорского филиала «Автопарк №1» ОАО «Миноблавтотранс» в городе достаточно много разговоров. Причем мнения высказываются противоположные. Одни сетуют, что вот на эту должность не смогли или не захотели найти профильного специалиста и теперь вряд ли стоит ждать улучшения положения с автобусными перевозками пассажиров, в автопарке может возобладать диктаторский стиль руководства, что не будет способствовать сохранению профессиональных кадров. Другие, наоборот, ожидают, что новый руководитель сумеет укрепить дисциплину в автопарке, повысить четкость и слаженность работы, добьется соблюдения графиков автобусных маршрутов, что явится благом для населения.

Что ж, как говорится, поживем – увидим.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

ЧУЛІ?

## Дапамаглі

*У Беларусі з 1 лютага вырасце памер дапамогі па доглядзе дзіцяці ва ўзросце да 3 гадоў.*

Так, памер штомесячнай дапамогі на першае дзіця павялічваецца з 376,11 да 405,48 рубля, на другое і наступных – з 429,84 да 463,4 рубля, на дзіця-інваліда ва ўзросце да 3 гадоў – з 483,57 да 521,33 рубля.

РЭГІЁН

# Ёсць такая мода – выпякаць хлеб дома

Маладая мама **Надзея Кузняцова** нечакана для сябе зацікавілася выпечкай хлеба, а літаральна праз два гады пачала вучыць гэтаму іншых.

### «Трымаюся, так бы мовіць, у трэндзе…»

Надзея Кузняцова – маладая мама з Гродна. Яе дачцэ яшчэ няма і трох гадоў. Паводле спецыяльнасці жанчына – інжынер-тэхнолаг па металаапрацоўцы.

…Відаць, што ў кухонных справах яна пачуваецца як рыба ў вадзе. Паўсюль чысціня, усе прадметы расстаўлены зручна – нішто не замінае, агульны выгляд вельмі эстэтычны.

На стале акуратна складзены нядаўна выпечаныя невялічкія боханы, зусім не падобныя да тых, што ў краме. Аказваецца, сёння Надзея выпякала чорны жытнёвы хлеб паводле шведскага рэцэпта. У сям’і яго вельмі любяць.

Выпечкай хлеба Надзея занялася больш за два гады таму, як пайшла ў дэкрэтны адпачынак. Былі сілы і жаданне, каб заняцца яшчэ нечым, акрамя выхавання дачушкі.

Муж Надзеі Сяргей ганарыцца жонкай. Распавёў, што паходзіць яна з сям’і, дзе ўсе жанчыны з пакалення ў пакаленне не толькі добра гатавалі, але і прыгожа вышывалі, пралі, ткалі і ўвогуле былі майстрыхамі на ўсе рукі.

– Зараз многія цікавяцца здаровым экалагічным харчаваннем, і гэта мода хутка распаўсюджваецца, – распавядае Надзея. – Я таксама трымаюся, так бы мовіць, у трэндзе. А хлеб, асабліва жытні, – гэта нешта асаблівае ў нашай беларускай культуры і традыцыі. Дарэчы, я раней не магла нават уявіць, што яго можна пячы папросту ў духоўцы звычайнай хатняй пліты, – мне ўяўлялася, што гэта нейкае магічнае дзейства.

Напачатку, узгадвае майстрыха, была ўпэўнена, што спячы хлеб проста. Але хутка зразумела: калі белыя булачкі яшчэ маглі атрымацца, дык звычайны чорны хлеб з першых разоў не выходзіў смачным і прыгожым.

– Я пачала вывучаць тэхналогію выпечкі хлеба, як некалі вучыў мяне тата, да драбінкі, – згадвае Надзея. – У гэтым працэсе існуе так шмат асаблівасцяў, дробных момантаў, якія ні ў якім выпадку нельга абмінаць.

І хлеб пачаў атрымлівацца! Яго ўпадабалі не толькі сямейнікі, але і знаёмыя, сябры. І пачалі прасіць пячы яго часцей. Тады і прыйшло разуменне: нават для сучасных людзей хатні хлеб – жывы.

– Мой хлеб заўсёды свежы, ён не чарсцвее тыднямі, не псуецца, колькі б ні ляжаў, скарыначка хрусціць.

На тыя боханы, што я ўбачыў на стале, у Надзеі пайшло чатыры дні. Наогул жа яна можа пячы больш за дзясятак гатункаў чорнага і белага хлеба. Дарэчы, як заўважае жанчына, калі ідзе ў госці, заўсёды ў пачастунак бярэ свой твор.

Ці складаная гэта справа, пытаюся.

– Самае галоўнае ў працэсе выпечкі хлеба – кантраляваць, каб ён не перабрадзіў, каб не змянілася тэмпература, пры якой падыходзіць цеста, каб паставіць яго ў печ не раней і не пазней, а калі трэба, – пералічвае Надзея. – А яшчэ – адчуваць усё, што з ім адбываецца, калі ён пячэцца.

### Свята не на маёй вуліцы

Каб навучыцца пячы добры хлеб, Надзея акрамя вывучэння адпаведнай літаратуры і матэрыялаў інтэрнэту ездзіла ў Мінск на майстар-класы, плаціла за гэта немалыя грошы – і 200, і 400 рублёў. І недарэмна. Зараз яна сама ў Гродне праводзіць падобныя майстар-класы, дзеліцца з іншымі сваім вопытам і, дарэчы, зарабляе гэтым грошы: яе майстар-клас каштуе 70 рублёў з чалавека.

– Насамрэч, я не чакала, што так шмат людзей цікавіцца выпечкай хлеба ў хатніх умовах, – кажа Надзея. – Пасля майстар-класаў людзі аб’ядноўваюцца ў групы, разам закупляюць муку і іншыя інгрыдыенты, каб гэта было прасцей і танней. Некаторыя з маіх вучняў ужо пякуць хлеб на заказ.

Тут я здзівіўся: але чаму ж тады ў Гродне, напрыклад, на маёй вуліцы няма сямейнай пякарні і крамы, дзе кожную раніцу можна было б набыць свежы чорны хлеб, французскі багет ці круасан? На гэта пытанне тлумачэнне мне дае Сяргей:

– Каб арганізаваць вытворчасць, патрэбна абсталяванне – цестамес, печка, арэнда памяшкання, аплата камунальных выдаткаў… Дзяржава дацыруе прадпрыемствы хлебапякарнай прамысловасці. Прыватніку ж даводзіцца прадаваць свой хлеб даражэй, каб закупіць неабходныя інгрыдыенты для наступнай выпечкі і хоць нешта зарабіць на жыццё. Вось такі бохančык шведскага чорнага хлеба, як на стале, прадаецца за 4–5 рублёў, і гэта амаль сабекошт. А большасць беларусаў не ў стане плаціць такую цану за хлеб.

Тыя, хто сёння выпякае хлеб на заказ, яшчэ недзе працуюць, а хлебапячэнне – дадатковы заробак.

### Не хлебам адзіным…

Надзея і Сяргей пра хлеб могуць распавядаць гадзінамі, прычым цікава, глыбока, пазнавальна.

Робіцца ўражанне, што размаўляеш з дасведчанымі людзьмі, якія маюць багаты жыццёвы досвед, хаця яны яшчэ зусім маладыя.

Усе грошы ад першых майстар-класаў, якія Надзея давала для сваіх блізкіх сяброў, яна накіравала ў пункт часовага ўтрымання бяздомных жывёл. Наступным разам дапамаглі дзіцячаму хоспісу, а пазней – і дарослаunion.

Якраз на наступны дзень пасля нашай сустрэчы ў Надзеі павінен быў адбыцца майстар-клас, кожны раз яна вельмі хвалюецца.

– Мне, напэўна, сёння ўсё гэта будзе сніцца, – прызнаецца маладая жанчына. – Я ўжо дзясяткі разоў усё перадумала, як, што за чым там будзе адбывацца. Мне трэба, каб усё было раскладзена па палічках, каб кожны чалавек зразумеў, навучыўся, каб з маёй працы быў плён.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**



**На здымку: Надзея Кузняцова дае майстар-клас па вепечцы хлеба.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
31 СТУДЗЕНЯ 2020 г.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Чаму банкіры ад бабулі нямала брыдкіх слоў пачулі?

Пенсіянерка з Жабінкі закрыла свой валютны ўклад, а праз 6 гадоў зноў запатрабавала грошы ў банка. Міліцыя праверыла: магчыма, у свой час грошы атрымаў нехта іншы? Аднак экспертыза почырку засведчыла, што подпіс належыць самой бабулі…

Калісьці з “лішнімі” грашыма
Ішлі мы да ашчадных кас.
Ды ўлада потым саграшыла –
Да ніткі абабрала нас:
Як у агні, згарэлі ўклады –
Усе “драўляныя” рублі.
Таму прапаў давер да ўлады
(Ды ён і зараз на нулі).
Бабуля гэтая таксама,
Відаць, рублёвы мела ўклад,
І напаткала тая ж драма
Жанчыну трыццаць год назад.
Быў стан душэўны нехарошы…
Затым рашыла: “Зараблю
Сабе на смерць усё-ткі грошы.
Аднак тутэйшаму рублю
Нямашака ніякай веры,
Бо сёння ён яшчэ ў цане,
А заўтра ўжо лісток паперы.
Збіраць даляры трэба мне,
І без душэўнае пакуты
Тады, бадай, сустрэну смерць…”
Яна сабрала шмат валюты –
Хацеў бы кожны столькі мець!
І не засунула ў панчоху,
Не прыхавала на страсе.
“Няхай расце запас патроху,
Цякуць працэнты пакрысе”, –
Рашыла мудрая бабуля
І ў банк занесла свой запас…
Даўно заўважана: як куля,
Ляціць для састарэлых час,
Бо набліжае іх да раю,
Бо меней клопатаў і спраў.
Гатова ўжо сканаць старая,
Ды Бог чамусь не прыбіраў.
І ад унука ці ад сына
Пачула, мусібыць, яна:
– Мне трэба новая машына,
Бо той, што ёсць, лічы, хана.
Даляраў маеш быццам вошай –
Як кажуць, не скляваць курам.
Дык ты пазыч на “тачку” грошай,
А я табе праз год аддам.
Яна не паказала дулю
(Хто ж паспрыяць радні не рад?).
Унук у банк адвёз бабулю,
І там яна забрала ўклад –
Нашчадку верыла старая.
І зноў праносяцца гады,
А Бог яе не прыбірае,
Хоць сняцца ўсё часцей клады.
Бабуля ўрэшце парашыла:
“У банку грошы ўзяць пара,
Бо калі буду не з грашыма,
Ніхто не вынесе з двара…”
На гэты раз з кійком да банка
Яна прытупала сама.
А там чакала нечаканка:
Сказалі:
– Грошыкаў няма…
І што было рабіць бабулі?
Забіла бедная ў званы –
Нямала брыдкіх слоў пачулі…
Але няма яе віны:
Правалы ў памяці з гадамі –
Старым патрэбны напамін.
Аднак чамусьці не ўзгадалі
Пра тыя грошы ўнук ці сын…

* * *

Падумае, напэўна, хтосьці,
Што памяць страціла знарок,
І плюне, можа быць, ад злосці –
Не толькі выкажа папрок.
Ды ўсім старым – мая спагада,
Трымаць на іх не варта зла,
Бо ім дагэтуль наша ўлада
Савецкі доўг не аддала…

## Дзе туалет?

У санаторыі падслухаў дыялог
Мужчын:
– А туалет, скажыце, дзе?
– І сам яшчэ не ведаю, дальбог,
Бо я тут усяго чацвёрты дзень…

## Ліст дадому

Згаладаўшы, мусібыць, ушчэнт,
Піша ліст
Сваім бацькам студэнт.
У лісце радкоў, прынамсі, мала:
“Вышлі сала!
Прывітанне, мама…”

## Не вяжа лыка

Што служыць ап’янеласці
адлікам?
“Такі ён п’яны,
Што не вяжа лыка”.
Сябры мае,
Я шчыра вам скажу,
Што лыка і цвярозы не звяжу…

УСМЕШКА МАСТАКА




## «У яе ўтварыўся шрам на вуху»

Жыхарка Гомеля, маці вучаніцы 3-га класа гімназіі №71, звярнулася ў міліцыю з прычыны траўміравання яе дачкі К. Як стала вядома, інцыдэнт здарыўся 21 студзеня на ўроку матэматыкі.

Дырэктар гімназіі №71 **Ірына Цімашышына** адмовілася каментаваць інцыдэнт. 47-гадовая настаўніца, якую бацькі вінавацяць у траўміраванні дачкі, ужо тыдзень не працуе – яна на бальнічным. На сайце ўстановы адукацыі паведамляецца, што ў 2017 годзе Таццяна П. атрымала званне «Настаўніца года» за тое, што разам са сваімі вучнямі заваявала для гімназіі пяць дыпломаў пераможцаў прадметных алімпіяд.

Праверку па заяве маці праводзіць Савецкі РАУС Гомеля «ў межах крымінальна-працэсуальнага заканадаўства». Прызначана судова-медыцынская экспертыза. Яе вынікі будуць уплываць на вывады праверкі.

*«Збіцця не было, але настаўніца падчас урока схапіла вучаніцу за вуха. Вядома, гэта няправільны ўчынак,* – пракаментаваў начальнік галоўнага ўпраўлення адукацыі Гомельскага аблвыканкама **Руслан Смірноў**. – *Быў бацькоўскі сход, настаўніца папрасіла прабачэння за свае паводзіны. Але прэтэнзіі з боку бацькоў дзіцяці ёсць. Настаўніца цяпер на бальнічным, праводзіцца праверка. Педагог вельмі перажывае, яна нават трапіла ў бальніцу пасля інцыдэнту».*

Малюнак Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.

ЗАПРАШЭННЕ

## Адказ крытыкам Каліноўскага




Сяргей Абламейка прэзентуе кнігу «Каліноўскі і палітычнае нараджэнне Беларусі».

У час пахавання Каліноўскага і яго паплечнікаў у Беларусі вялося шмат дыскусій пра Кастуся: наш ці не наш, герой ці не герой, любіць яго ці не любіць. Новая кніга падводзіць рысу пад гэтымі спрэчкамі і расстаўляе ўсе кропкі над «і». Паводле ацэнкі выдаўцоў, гэта сістэмны і аргументаваны адказ крытыкам Каліноўскага і адначасова – кароткая гісторыя беларускай ідэнтычнасці. Кніга, якую мусіць прачытаць кожны беларус.

Прэзентацыя кнігі адбудзецца ў панядзелак 3 лютага а 19.00 у прасторы ОК16 (Мінск, Кастрычніцкая, 16) .

Уваход вольны.

ИЗ ПИСЬМА

## Чтобы не было большого расслоения на богатых и бедных

В Беларуси на данное время установлена минимальная зарплата в размере 375 рублей. Желательно ограничить и максимальную зарплату (я имею в виду государственные предприятия). Скажем, она не должна превышать минимальную в семь раз. Чтобы не было большого расслоения на богатых и бедных. Чтобы госначальники не жировали за счет нищих подчиненных.

Анна ПУРГЕЛЬ.

ДЫСКУСІЯ

## Не хварэй, спадарыня Гур’ева, на імперскую хваробу

Нагадаю ліст Наталлі Гур’евай (“Народная Воля” за 6.09.2019), які яна адрасавала актыўнаму аўтару газеты, доктару эканамічных навук, прафесару Барысу Жалібу, пачынаецца са слоў: *“К сожалению, живу в Белоруссии”*. Мяне яны непрыемна ўразілі. Аўтарка выказвае непрыязнасць да краіны, у якой *вымушана* пражываць. Пра сваю непавагу да Беларусі яна гаворыць смела, ведаючы, што ёй за гэта нічога не будзе. І тут я хачу прыгадаць дэпартацыю з Беларусі праваабаронцы Алены Танкачовай, якая на той момант пражыла ў Беларусі 30 гадоў. Яна з павагай ставілася і ставіцца да краіны пражывання. У яе нават у думках не было, што ёй можа пагражаць дэпартацыя. Але ў сілу сваёй дзейнасці яна часам крытыкавала ўладу за парушэнні правоў грамадзян. І пацярпела за гэта, а не за парушэнне хуткаснага рэжыму на ўласным транспарце. Наталля Гур’ева не чапае канкрэтна высокіх чыноўнікаў, яна толькі выказвае непавагу ў цэлым да Беларусі, таму не баіцца нейкага пакарання. Хоць, на мой погляд, яна яго заслугоўвае.

Наталля Гур’ева нагадала байку Крылова “Слон и Моська”, але не таму, што яна такая заўзятая аматарка творчасці байкапісца, а, бачыце, яна вырашыла публічна ўказаць сваё месца “Мосьцы” – Беларусі. Што ж, многія выхадцы з Расіі хварэюць на імперскую хваробу. *“Россия всегда была и остается великой Державой”*, – узнёсла піша аўтарка ліста. Тое, што яна ганарыцца краінай, у якой нарадзілася, гэта нармальна. Але зірнём на гэтую “вялікасць” з іншага боку. Расія не вялікая, а вялізная. Гэта краіна, якая мае багатыя запасы карысных выкапняў і прыродных рэсурсаў і беднае насельніцтва. Агрэсіўная, узброеная да зубоў – і пры гэтым адсталая, цяжкакіруемая.

Заўважу, яшчэ 30 снежня 1999 года ў “Независимой газете” Пуцін апублікаваў свой праграмны артыкул “Россия на рубеже тысячелетий”. Ён паставіў канкрэтную мэту – за 15 гадоў дагнаць Партугалію па ўзроўні ВВП на душу насельніцтва. Звярніце ўвагу: Пуцін і “вялікая” Расія планавалі дагнаць не ЗША, не ФРГ, не Францыю, не Вялікабрытанію, а Партугалію – адну з самых бедных краін Еўрасаюза. Але адкуль насельніцтва Расіі магло ведаць, што Партугалія не з багатых краін, хоць і багацей за Расію? Не дагналі. Ну і што? Праграмны артыкул быў разлічаны на кароткатэрміновае ўздзеянне на насельніцтва, неабходнае для падтрымкі рэйтынгу Пуціна, каб народ яго ўспрыняў адэкватна. І невыпадкова праз некалькі гадзін, апоўдні 31 снежня 1999 года, ён быў аб’яўлены выконваючым абавязкі прэзідэнта РФ, а Барыс Ельцын аб’явіў аб сыходзе ў адстаўку па ўласным жаданні.

Наталля Гур’ева ў сваім лісце даводзіць нам, што Расія *“и белорусам дала много и помогла подняться с колен, дала своих ученых и специалистов”*. Давайце разбірацца. Аўтарка не ўдакладніла, якім чынам Расія дапамагла Беларусі падняцца з калень. А вось пры дапамозе газу і нафты наша суседка паставіла Беларусь з калень на чацвярэнькі, і не вядома, колькі часу мы будзем так стаяць. Напрыклад, дамову па газе з Кітаем Расія падпісала адразу на 30 гадоў, а вось газавыя пагадненні з Беларуссю заключаюцца ўсяго на год. Як правіла, штогод у апошнія перадгнавагоднія дні адбываюцца “газавыя войны”.

А тое, што Расія забяспечыла Беларусь сваімі навукоўцамі, увогуле гучыць недарэчна: многія навукоўцы, спецыялісты як з Расіі, так і з Беларусі з’язджаюць у Еўропу і ЗША. Магчыма, Наталля Гур’ева мела на ўвазе савецкі перыяд, дык у часы СССР існавала дзяржаўнае планавае размеркаванне. Расіян пасылалі ў Беларусь, беларусаў – у Расію. Гэта была не дапамога, а адзін з метадаў русіфікацыі – як спадчына ад Мураўёва-вешальніка.

А канцоўка ліста такая, што можа здацца, быццам не Пуцін, а Наталля Гур’ева прэзідэнт і Вярхоўны галоўнакамандуючы Расіі. Яна піша: *“Россия вас взяла под свое крыло (ракетное)... а иначе уже давно оказались бы под натовским сапогом”*. Няўжо аўтарка лічыць, што расійскі бот больш гуманны, чым натаўскі “сапог”? Якраз НАТА і стала тым парасонам, пад якім можна схавацца ад расійскіх ракет, што і зрабілі краіны былога Варшаўскага дагавора і Балтыі. Беларусь не паспела, заплуталіся ў павуцінні Саюзнай дзяржавы.

Ілля КОПЫЛ,
былы вайсковец.

МНЕНИЕ

## Зачем будущему инженеру завода углубленные знания по биологии?

Как-то мне в руки попал австрийский учебник по географии, рассчитанный на учеников 8–9-х классов. Журнального формата, в мягкой обложке, он знакомит со странами мира. Поражает количество иллюстраций: фотографий, рисунков, схем, диаграмм. В нем немного текста, но много сравнительных примеров. И у учителя есть свобода ведения урока: можно пройтись только по иллюстрациям, а можно обсудить отличия какой-то далекой страны от своей, дать детям возможность самостоятельно поработать с материалом. Год издания учебника – 1992-й. Представляете, уже тогда в Австрии учитывали, что большинство детей не любят читать. И что память ребенка не беспредельная, все заученное из нее быстро выветривается. Главное, чтобы школьники научились рассуждать, анализировать, делать определенные выводы, знали основные положения и происходящие в мире процессы. Подобные знания могут им пригодиться в жизни.

По моим наблюдениям, только около 20 процентов старшеклассников желают учиться, еще 10–15 процентов занимаются под нажимом родителей. Остальные учебу просто бойкотируют. Это их подсознательный протест против сложности и ненужности даваемых знаний. Есть даже случаи, когда и студенты бросают учебу, не видя смысла в изучении части сдаваемых предметов.

Поэтому, я считаю, необходимы новые учебники с простым и понятным изложением материала. Такие, которые не будут перегружены фактами и формулами, второстепенными подробностями, датами и объяснениями. Необходимы другие программы обучения, направленные на развитие логики мышления, на самостоятельный поиск информации, на анализ изучаемых материалов, а не на запоминание. Необходимы и новые авторы учебных пособий для школьников, не считающие свой предмет важнейшим из всех и поэтому старающиеся впихнуть в детские головы как можно больше подробностей. Ведь память, даже детская, избирательна: если давать слишком много материала для запоминания, то она будет через короткое время его стирать, освобождая место для нового. А что останется в итоге?

Скажите, много ли вы помните из школьного курса? Только то, что понадобилось вам в вашей профессии или в повседневном обиходе. А от остального остались только общие представления, что где-то что-то когда-то, возможно, изучалось. Так ли необходимы сложности математики, биологии, физики, подробное изучение истории? Ведь в жизни мы выполняем только простые арифметические действия, пользуемся общими представлениями о биологических и химических процессах. Скажите, зачем будущему трактористу глубокие знания по математике? А будущему инженеру завода – по биологии? А экономисту – по физике? А ведь у нас всех причесывают под одну гребенку…

Только около 15–20 процентам выпускников школы понадобятся подробные знания по математике и физике, чтобы освоить в колледже или вузе необходимую профессию. Еще меньше, 5–10 процентам, – по химии и биологии. И 1–2 процентам – по остальным предметам. Так для кого производится поголовное углубление в сложности этих школьных предметов? Не лучше ли давать всем детям только общие представления, а в старших классах ввести профильные уклоны в отдельные направления? И сделать это несложно. В старших классах пять уроков в день проводится общее изучение предметов, а на 6-й урок школьники расходятся на обязательные факультативы, каждый по своему направлению. Их может быть четыре: физико-математическое, естественнонаучное, общественно-гуманитарное и филологическое. Если школа маленькая, то направлений может быть меньше четырех. Вот на этих факультативах и можно давать углубленные знания по отдельным предметам, каждому старшекласснику свои. Уверен, такая система школьного обучения устроила бы всех.

Мои оппоненты могут возразить: а чем же наполнить содержание облегченных школьных курсов? Можно давать возможность и ученикам, и учителю обсудить проблемы, показать направления практического применения получаемых на уроке знаний, сделать логические выводы и умозаключения, самостоятельно отыскать необходимый материал в интернете и т.п. Вот вам и вариант применения гаджетов, от которых не отрываются школьники. В качестве домашнего задания необходимо чаще давать выполнение творческих работ, проведение экспериментов и опытов с составлением их описаний, находить пути решения каких-либо проблем и т.д. Ведь сегодня школьные программы перенасыщены новым материалом, который необходимо проходить почти каждый урок. Учитель и рад бы организовать дискуссию, обсудить некоторые положения, дать свой материал, но времени на это не остается. Вот дети 3–4 урока в день и занимаются заучиванием того, что скоро забудут, что в жизни им, скорее всего, не пригодится…

Особенно тяжело приходится учителям литературы. Более 90 процентов учеников не читают программные произведения полностью, могут только прочитать несколько страниц или предисловие. Исчезает сам смысл проведения подобных уроков. Учителя выкручиваются, конечно, как могут. Стараются детям пересказать сюжеты, используют фрагменты фильмов. Но без прочтения произведений детьми пользы от всего этого мало. Может, не стоит стремиться изучить всю классику, большинство которой «устарело» для сегодняшних школьников и нашей жизни, а сосредоточиться на изучении литературных жанров, разобрать сам процесс создания литературного произведения, подтолкнуть детей к «пробе пера». Сказать честно, и взрослые сейчас очень мало читают, чаще только короткие статьи или, как смеются юмористы, инструкции по применению дезодорантов.

Чтобы стать образованным человеком, способным разобраться в многочисленных проблемах жизни, достаточно хорошо усвоить общие представления, положения и законы, научиться делать выводы, строить логические умозаключения, уметь анализировать или овладеть системой поиска нужного материала. Все запоминать не обязательно, да это и невозможно; у нас уже возникла проблема фильтрации информации, отсева ненужного, настолько ее стало много. Но зато, если возникнет необходимость, образованный человек может легко освоить новую тему, углубиться в нее, разобраться в сложном материале, найти нужные ему сведения.

У нас все больше практикуется узкая специализация. Узкому специалисту понадобятся и более глубокие знания в выбранной области. Вот и давайте их при овладении профессией, во время курсовой подготовки. Но только тем, кому это необходимо. Тогда и учеба пойдет в радость.

Поэтому в школьных учебниках надо в полтора-два раза уменьшить количество текста и в три раза увеличить количество иллюстраций. Учебники периодически переиздаются, поэтому изменение их содержания не потребует дополнительных денежных вливаний. Ведь можно же сделать школьные учебники более интересными для учеников, с понятным содержанием, рассчитанным не на заучивание, а на формирование логики мышления. И по таким учебникам с удовольствием будут работать учителя, давая своим питомцам практически полезные знания, а не абстрактный и сложный для запоминания материал.

Станислав ХОЛЕВ,
отличник образования Республики Беларусь.

ПУЛЬС

## Тратят всё, что получают

В прошлом году депутаты литовского парламента потратили на свою деятельность впечатляющую сумму – почти 1,5 миллиона евро. Похоже, что больше всего средств они тратят на автомобили – аренда авто запрещена, зато много денег уходит на горючее, ремонт и страховку. Другие депутаты тратят эти деньги на сувениры, цветы. Совпадение или нет, но многие истратили выделенные им средства до последнего цента.

К слову, каждый депутат в 2019 году получил на парламентские расходы почти 12.000 евро.

## Компания Boeing впервые за 12 лет объявила об убытках

Чистый убыток американской корпорации Boeing за минувший год составил 636 миллионов долларов, об этом говорится в опубликованном отчете компании за четвертый квартал прошлого года.

По сообщению телеканал CNBC, Boeing понес убытки в годовом исчислении впервые с 1997 года.

## Самый длинный контрабандный туннель

Его обнаружили американские пограничники на границе США и Мексики.

Длина туннеля составляет 1,3 километра, высота – 1,7 метра, ширина – 60 см, он проходит на глубине до 21 метра. Туннель полностью обустроен: имеются лифт, рельсы, вентиляция, высоковольтные электрокабели, сложная дренажная система. Туннель пересекает под землей знаменитую стену Дональда Трампа, которая должна была стать преградой для контрабанды из Мексики.

Власти США не сообщили, кого они считают ответственным за строительство туннеля.

ГРОМКОЕ ДЕЛО

## Израильтянка Наама Иссахар освобождена



26-летняя гражданка Израиля Наама Иссахар, помилованная в среду президентом РФ Владимиром Путиным, покинула исправительную колонию в Подмосковье.

Эта новость появилась вчера утром на лентах российских информагентств со ссылкой на источники в правоохранительных органах.

Премьер-министр Израиля Биньямин Нетаньяху, прибывший с визитом в Россию, на встрече с Владимиром Путиным в Кремле поблагодарил его за помилование Иссахар.

### Дело Иссахар

«Руководствуясь принципами гуманности, постановляю: помиловать Нааму Иссахар, 1993 года рождения, осужденную 11 октября 2019 года Химкинским городским судом Московской области, освободив ее от дальнейшего отбывания наказания в виде лишения свободы», – говорится в тексте президентского указа, опубликованного в среду на сайте Кремля.

Жительницу Израиля, имеющую также американское гражданство, задержали в апреле 2019 года в транзитной зоне аэропорта Шереметьево, где она делала пересадку по пути из Дели в Тель-Авив. В ее багаже обнаружили 9,6 грамма гашиша.

Иссахар арестовали по обвинению в хранении (ч.1 ст.228 УК РФ) и контрабанде наркотиков в значительном размере (ч.2 ст.229.1 УК РФ) и затем приговорили к 7,5 года колонии.

Израильские СМИ писали, что Москва готова была передать Иссахар израильским властям в обмен на хакера Алексея Буркова, задержанного в декабре 2015 года в аэропорту Тель-Авива по запросу США.

Родственники израильтянки даже обращались в суд с прошением об отмене экстрадиции россиянина в США, называя Иссахар «дипломатическим заложником». Однако в ноябре 2019 года власти Израиля передали Буркова американцам.

23 января Владимир Путин, находившийся в Израиле на праздновании 75-летия освобождения советскими войсками нацистского лагеря смерти Аушвиц, встретился с матерью девушки, после чего отметил, что «Наама из очень хорошей, порядочной семьи» и пообещал, что «всё будет хорошо».

По имеющимся данным, Путин и Нетаньяху обсуждали судьбу Иссахар по телефону 16 и 26 января.

26 января Иссахар подала на имя Путина прошение о помиловании.

Российские представители, в частности, помощник президента по международным делам Юрий Ушаков, отрицали связь между освобождением Иссахар и решением Израиля передать России права на Александровское подворье – архитектурный и археологический комплекс примерно в 70 метрах от Храма Гроба Господня в Иерусалиме, построенный Русским Императорским православным палестинским обществом в 1896 году. Соответствующая просьба российских властей рассматривалась Минюстом Израиля несколько лет.

Нетаньяху прилетел в четверг в Москву, чтобы обсудить с российским коллегой общую ситуацию на Ближнем Востоке и новый план урегулирования, предложенный 28 января президентом США Дональдом Трампом.

О ЧЕМ ГОВОРЯТ

# Бананы, посылки и летучие мыши

*Самые популярные мифы о коронавирусе*

Штамм коронавируса 2019-nCoV быстро распространяется по Китаю, но еще быстрее по миру расходятся слухи и «альтернативные теории» о нем. Говорят, что вирус можно вылечить раствором соли или чаем Бань Лань Гэнь и что он распространяется с бананами и посылками с «АлиЭкспресс».

Би-Би-Си собрали слухи о коронавирусе, популярные в Китае и за его пределами.



### 1. Коронавирус приезжает с бананами

В России, Казахстане, Беларуси и в Украине в соцсетях и мессенджерах циркулирует сообщение о том, что коронавирусом можно заразиться через бананы или другие фрукты. Выглядит оно так:

*«В больнице Синьхуа вчера ночью погибли 23 человека, которые были заражены вирусом п7п9. Самому старшему было 35 лет, самому младшему – год, врачи, находящиеся с ними контакт, находятся в карантине. В новостях главного канала попросили временно не употреблять бананы, особенно привезенные с юга».*

*«Как только получите это сообщение, немедленно отправьте людям, за которых переживаете, еще лучше отправьте в групповые чаты. Для вашего же здоровья, пожалуйста, пересылайте. И уменьшите потребление бананов! Сразу пересылайте, не надо отвечать, помогите другим людям тоже позаботиться о себе».*

В некоторых вариантах текста говорится, что информация пришла из «Филиала Чуньминь больницы Синьхуа». Такая больница действительно существует и находится в Ухани.

Однако ни один эксперт, чиновник или политик в Китае или за его пределами никогда не связывал вирус с фруктами. Кроме того, в сообщении неправильно назван штамм вируса.

Штамм 2019-nCoV передается воздушно-капельным путем от человека к человеку, напоминают эксперты. Вирус не может долго выжить вне организма человека или животного, по крайней мере в его нынешнем виде.

### 2. Посылки с AliExpress

Та же проблема и с версией, что вирус может приехать из Китая в посылке с новыми наушниками или роботом-пылесосом.

Компания AliExpress в первые дни вспышки вируса в Ухани была вынуждена заявить, что все ее посылки проходят санитарную обработку.

Несколько дней спустя российские СМИ сообщили, что россияне якобы отказываются от покупок на AliExpress. В компании этого не подтвердили.

Связь между AliExpress и коронавирусом – популярный мотив мемов и шуток.

Но это – неправда. В России и в Украине эксперты и чиновники от здравоохранения заверяют, что заразиться от посылки практически невозможно. Медикам очень сложно представить, что вирус может выжить на поверхности или внутри посылки в течение всего срока пересылки.

Представители российского подразделения AliExpress отмечают, что до сих пор ни одного факта заражения через посылку установлено не было.

В Украине некоторое время назад появились новости, что почта перестанет принимать посылки из Китая. Они тоже оказались фейком.

### 3. Алкоголь

*«Отец работает в Минздраве. Сегодня вызывали на срочное совещание. Вернулся и сказал маме по секрету, что особым распоряжением правительства для борьбы с китайским коронавирусом всем мужчинам, которые, в отличие от женщин и детей, наиболее подвержены риску заражения, каждый вечер нужно выпивать не менее 250 граммов водки, виски или коньяка».*

Этот, очевидно, шуточный текст сегодня ходит по российскому интернету, но в Ухани многие действительно думают, что излечиться от коронавируса можно с помощью алкоголя.

Как рассказали жители Ухани корреспонденту Би-Би-Си, часть жителей города, в основном старшего поколения, усиленно пытаются излечиться крепким алкоголем.

«Старшее поколение верит, что алкоголь убивает вирус: у нас соседи пьяные ходят, говорят, это чтобы живыми остаться», – говорит жительница города Антонина Старцева.

Эксперты напоминают, что алкоголь, напротив, угнетает иммунную систему и ослабляет организм, осложняя процесс борьбы с вирусом. Алкоголь лучше использовать для дезинфекции продуктов или рук.

Единственное средство, которое сегодня может помочь снизить риск заражения, – это соблюдение правил гигиены.

В американском сегменте соцсетей также зародилась версия, что справиться с коронавирусом может помочь курение каннабиса, но и она была опровергнута.

### 4. Раствор соли

Миф о том, что с коронавирусом можно справиться, если полоскать горло раствором соли, зародился в китайском сегменте интернета вскоре после того, как власти КНР сообщили, что вирус передается воздушно-капельным путем.

Автором этой теории называют видного китайского пульмонолога Чжунь Наньшаня из Медицинского университета Гуанчжоу.

Как сообщает Служба мониторинга Би-Би-Си, этот слух начался с комментария представителя больницы при университете, где работает Чжунь, которое он дал агентству «Синьхуа».

Суть комментария сводилась не к тому, что от болезни можно исцелиться с помощью солевого раствора, – представитель медучреждения всего лишь подчеркивал важность гигиенических процедур и профилактики.

Но в соцсетях этот совет превратился в целую альтернативную теорию по борьбе с вирусом. В нескольких популярных постах от имени Чжуня говорится: «Поскольку вирус или бактерия после заражения задерживаются в носоглотке, раствор соли их убьет и предотвратит заболевание».

На самом деле вирус может попасть в организм не только через дыхательные пути, но и, например, через слизистую оболочку глаз. Поэтому медики рекомендуют как можно реже трогать руками лицо и тереть глаза.

Информации о том, что вирус можно уничтожить раствором соли, из авторитетных источников тоже не поступало. Представитель Всемирной организации здравоохранения в беседе с агентством Франс Пресс подтвердил, что эта информация – фейк.

### 5. Все началось с летучих мышей

В западных соцсетях несколько дней назад распространилась версия, что нынешняя вспышка коронавируса началась после того, как молодая китаянка съела в ресторане суп из летучей мыши.

Как правило, эта версия сопровождается видеороликом, на котором некая девушка действительно достает из тарелки с супом нечто похожее на летучую мышь, и откусывает ее.

Версии о том, что вспышка началась из-за странных китайских блюд, обрела определенную популярность и среди россиян. Но не все так просто.

Видео с девушкой и летучей мышью появилось в соцсетях за несколько лет до нынешней вспышки вируса. Саму же версию многие называют проявлением ксенофобии и попыткой сыграть на страхе людей перед неизвестным.

Что касается взаимосвязи между вирусом и дикими животными, то она все же есть. Коронавирус, по версии властей, действительно зародился на рынке морепродуктов, где продавали диких животных, которых потом готовили и ели.

Такие рынки есть во всем Китае и действительно опасны с точки зрения эпидемиологов. Как говорил в беседе с Би-Би-Си автор книги "Зараза" Дэвид Куаммен, появление нового вируса на таком рынке эксперты ВОЗ предсказывали еще несколько лет назад.

Тем не менее видео, о котором идет речь, не имеет отношения к коронавирусу. Оно было снято не в Ухани, где летучие мыши не считаются деликатесом, и вообще не в Китае, а в республике Палау. Летучих мышей употребляют в пищу в Лаосе и африканской республике Сан-Томе и Принсипи. Кроме того, раньше их употребляли в пищу в некоторых регионах Италии. В книге Аугусто Тоски и Бенедетто Ланцы «Млекопитающие: общие, насекомоядные, рукокрылые. Фауна Италии» говорится, что после Второй мировой войны пещеры в окрестностях деревни Костоцца в провинции Вичецна опустели, потому что местные съели всех летучих мышей.

В ФОКУСЕ

# Дубай откажется от одноразового пластика

*Более 300 миллионов тонн – столько пластика ежегодно производится в мире. Борьба с опасными для природы отходами начинается с ограничений на использование пластмасс. Такую задачу поставили перед собой многие страны, регионы и города. Дубай – в их числе.*

...Через международный аэропорт Дубая и расположенный вокруг деловой и гостиничный комплекс ежегодно проходит до 90 миллионов пассажиров. Эта армия путешественников производит 5,5 тысячи тонн пластиковых отходов. Ситуация обещает измениться: в терминалах аэропорта запрещены изделия из одноразового пластика.



Вилки, соломинки для напитков, стаканчики и пакеты должны исчезнуть с прилавков здешних кафе и магазинов. Юджин Барри, исполнительный вице-президент Международного аэропорта Дубая, рассказал: «95 процентов наших партнеров обязались отказаться от пластика и ввести в оборот подходящие для сферы общественного питания и розничной торговли альтернативы».

Наблюдатели считают, что опыт крупного транспортного узла вдохновит на аналогичные шаги и других игроков в сфере перевозок и торговли. «Некоторые наши международные партнеры, McDonald's, Costa Coffee, Prêt à Manger и некоторые местные бренды, такие как Tree House и Transee, уже заменяют пластик на экологически чистые альтернативные решения. Это первый шаг на долгом пути к устойчивым бизнес-практикам», – добавляет Юджин Барри.

Вслед за аэропортом 700 отелей Дубая один за другим вытесняют со своих столов и барных стоек пластиковые бутылки, заменяя их на стеклянную тару. Ключи для номеров в виде пластиковых карт также обещают уйти в прошлое, их сменят носители на основе древесины.

На этом фоне спрос на альтернативные решения начинает опережать предложение. Директор производственной группы Avani Middle East Петер Аврам рассказал: «Частный сектор – в авангарде борьбы с эпидемией пластика. Вот уже два года мы совершенствуем альтернативные технологии, особенно в сфере упаковки. Вот этот пакет *(показывает)* изготовлен из корнеплода, напоминающего картофель *(кассава)*. Клубни измельчаются, смешиваются с растительным маслом. Полученную зернистую массу мы помещаем в машину, которая раскатывает ее до состояния тончайшей пленки. Из нее изготавливаются пакеты. У нас есть несколько крупных заказчиков, берущих нашу упаковку на реализацию, среди них Virgin Megastore. Одновременно появляются и небольшие клиенты. Мы смогли вдвое сократить использование пластиковых пакетов, это наибольший вклад нашей компании в общее дело».

В Дубае общество меняет свой взгляд на пластиковую упаковку. 90 процентов местного населения прилагает сознательные усилия, чтобы уменьшить потребление на уровне семьи. Четверо из пяти опрошенных говорят, что отправляют на вторичную переработку больше отходов, чем пять лет назад. Каждый четвертый респондент обращает внимание на экоинициативы и борьбу с пластиком крупных корпораций.

Местные предприниматели понимают: отказ от одноразового пластика сопряжен с расходами. И тем не менее идут на этот шаг, считая его безальтернативным.

В авангарде перемен – дубайские рестораторы. Том Арнел из Common Grounds рассказывает: "У меня трое детей, мы часто ходим на пляж, и меня шокирует количество пластика на песке и в воде. Всё это загрязняет океан. В действительности мы можем очень многое сделать. Мы обслуживаем тысячи клиентов в неделю, так что любое небольшое преобразование будет иметь значение. Начать нужно с определения всех зон применения одноразового пластика – всех этих стаканчиков, упаковки на вынос, соломинок. На нашей кухне мы заменили их безопасной для окружающей среды посудой. И отклик наших клиентов просто потрясающий! Если каждый будет вносить свой вклад, осознавая, на какую цель работает, сообща мы, безусловно, добьемся изменений".

НУ І НУ!

## Пакінула больш за 200 ўнукаў і праўнукаў

У Таджыкістане, паводле некаторых звестак, на 126-м годзе жыцця памерла Фаціма Мірзакалумава – найстарэйшая жанчына на постсавецкай прасторы. Яна як быццам нарадзілася ў 1893 годзе ў Расійскай імперыі, перажыла дзве сусветныя вайны, рэвалюцыю, развал СССР і з'яўленне на карце свету незалежнага Таджыкістана.

Доўгажыхарка пакінула па сабе 8 дзяцей (апошні сын нарадзіўся, калі ёй было 66 гадоў) і больш за 200 ўнукаў, праўнукаў і прапраўнукаў.

Адукацыю Ф.Мірзакалумава мела мінімальную – некалькі класаў вячэрняй школы, кніг не чытала і толькі некалькі гадоў адпрацавала ў мясцовым саўгасе, увесь астатні час гадавала дзяцей. Праўда, у 1940 годзе паўдзельнічала ў вялікай савецкай будоўлі – разам з тысячамі суайчыннікаў пракладвала ў пустэльні Вялікі Фярганскі канал.

Зазначым, што Кніга рэкордаў Гінеса працягвае называць найстарэйшай жыхаркай планеты францужанку Жану Кальман, якая пражыла на свеце 122 гады і 4 месяцы.

**Антон ЗАГОРСКІ.**



Народная Воля http://www.nv-online.info
31 СТУДЗЕНЯ 2020 г.

100 РАДКОЎ

Міхася СКОБЛЫ



# Набатны звон Сафіі

Тры гады таму ў Полацку ў прысутнасці тысяч гараджан і гасцей Дня беларускага пісьменства і друку быў урачыста адкрыты помнік "Беларуская дзяржаўнасць". Усталяваны ў гістарычным месцы, дзе "Сафія плыве над Дзвіною, нібы карабель", пры сутоку Дзвіны і Палаты, ён годна засведчыў – старажытны Полацк быў калыскай той самай дзяржаўнасці, на падмурку якой будуецца сённяшняя незалежная Беларусь.

Здавалася б, да святога месца і адносіны павінны быць адпаведныя. Але Полацкі райвыканкам вырашыў іначай і пры самых сценах Сафійскага сабора распачаў грандыёзнае будаўніцтва. На зямлі, дзе культурны слой даходзіць да 5–6 метраў, дзе, капануўшы звычайнай рыдлёўкай, можна знайсці музейны экспанат, праз два гады мае паўстаць кадэцкі корпус. Неабходныя для яго пабудовы 30 мільёнаў рублёў ужо выдзелены. Яшчэ гадоў дзесяць таму на тым самым месцы планаваўся турыстычны цэнтр, але на яго грошай не знайшлося. А на корпус – адшукаліся імгненна. Начальнік аддзела культуры Полацкага райвыканкама Алена Астапава, не вельмі бядуючы па тым цэнтры, з гонарам расказвае СМІ аб пераемнасці даўніх традыцый.

Прабачце, пра якія традыцыі гаворка? Кадэцкі корпус у Полацку на 400 месцаў быў упершыню адкрыты ў 1835 годзе паводле ўказа расійскага імператара Мікалая І і ў дзень яго нараджэння. Мэта не хавалася – ваенізаваная навучальная ўстанова адкрывалася *"для проведения в Западном крае идеи русского просвещения, русского патриотизма и русского дела. Поскольку Западный край историческими обстоятельствами был оторван от России и в нем едва не был забыт русский язык"*, выпускнікі корпуса павінны былі *"всеми силами стремиться поднять в крае русское дело и заботиться об окончательном воссоединении этого искони русского края с православною Россией"*.

Варта дадаць, што кадэцкі корпус адкрываўся на землях, дзе нядаўна было задушана нацыянальна-вызваленчае паўстанне 1830 года. І не абы-дзе, а ў будынках зачыненага і разрабаванага царскімі ўладамі Вышэйшага піярскага вучылішча. Адмыслова прызначаная з Санкт-Пецярбурга "комиссия об устроении Полоцкого кадетского корпуса", якою кіраваў генерал-губернатар князь Хаванскі, бесцырымонна загадала прыёру піярскага кляштара Барташэвічу "очистить помещение от учащихся и своего жительства". У выніку багатая на старадрукі бібліятэка вучылішча скарацілася ў дваццаць разоў (відаць, шмат было "вредной литературы"), багадзельня стала кадэцкай пральняй, а батанічны сад быў ператвораны ў дрывотню.

Дарэчы, сыны беларускай шляхты, якая мела дачыненне да паўстання, у кадэцкі корпус не дапускаліся – каб не пасеялі ў шэрагах навучэнцаў чарговай смуты. Кадэты-выпускнікі атрымлівалі адмысловыя нагрудныя знакі з двухгаловым арлом, такі ж арол красаваўся на корпусным штандары.

Ці ведаюць пра гэта Алена Астапава і другія профільныя чыноўнікі Полацкага райвыканкама? Аказваецца, ведаюць, і гэта іх зусім не бянтэжыць. Як не бянтэжыць і тое, што арыгінальны кадэцкі штандар (з арлом і каронаю), той самы, зацверджаны Мікалаем І, ужо ў нашы дні быў выяўлены ажно ў Знаменскім саборы Нью-Ёрка (!), прывезены ў Полацк і ўрачыста перададзены ў СШ №4, дзе з 2010 года ўжо навучаецца 230 кадэтаў. А хутка будзе 400 – і ўсе яны будуць "отдавать честь" імперскаму штандару, маршыраваць па пляцы, пад якім шэсць метраў беларускай гісторыі, і заглушаць шыхтавымі песнямі арган і багаслужбы ў Сафійскім саборы. Магчыма, дзеля поўнай "пераемнасці традыцый" кадэтам-выпускнікам будуць уручацца і знакі з двухгаловым арлом.

Міністр адукацыі Ігар Карпенка і начальніца аддзела культуры Полацкага райвыканкама Алена Астапава, адкажыце, як усё гэта спалучаецца з патрыятычным выхаваннем? Патрыётамі якой краіны вырастуць полацкія кадэты? Як выглядае, у калыску беларускай дзяржаўнасці вы падлажылі сумнеўныя цацкі. Хто даў вам права на ўкараненне ў сістэму дзяржаўнай адукацыі імперскіх сімвалаў суседняй дзяржавы? А яшчэ дайце адказ: адкуль на той кадэцкі корпус так хутка знайшліся велізарныя грошы ў час, калі школьным настаўнікам і выкладчыкам ВНУ з пачатку новага года значна паменшаны заробкі?

Спалохана ўздрыгвае беласнежная Сафія – ля яе падножжа руйнуюцца старыя будынкі, капаюцца катлаваны. Глыбей занурваецца ў зямлю насуплены Барысаў камень. Помнік беларускай дзяржаўнасці, зроблены ў выглядзе старадаўняга карабля, здаецца, вось-вось саслізгне са стромага берага ў Дзвіну і сплыве прэч, каб не бачыць, як у гістарычным цэнтры Полацка залунае імперскі штандар з драпежным двухгаловым арлом.

І таму не пытайцеся, па кім звоніць звон з вежы Сафійскага сабора. Ён звоніць па ўсіх нас, па нібыта дарослым народзе, які так лёгка, без пярэчанняў, дае апаганіць сваю калыску.

## АД РЭДАКЦЫІ

**Сённяшняя калонка Міхася Скоблы – гэта, можна сказаць, працяг артыкула Уладзіміра ЦЯЛЕЖНІКАВА "Спасем святыню!", які быў надрукаваны ў "Народнай Волі" 24 студзеня. Будзем спадзявацца на прынцыповае рэагаванне з боку высокіх дзяржаўных улад.**

СІТУАЦЫЯ

# Калі фінансы спяваюць рамансы

*Футбольнае мінскае "Дынама" ў бізнесмена Чыжа забралі, але далейшы лёс клуба пакуль не вырашаны.*

У маі мінулага года ў Эканамічным судзе Мінска праходзілі слуханні па іску галоўнага ўпраўлення спорту і турызму Мінгарвыканкама да мінскага «Дынама». Судовае рашэнне было прадказальнае, але ў той жа час даволі дзіўнае: суд задаволіў іск аб адмене рашэння ЗАТ «Дынама» Мінск аб выпуску 108 простых акцый, якое было прынята… у 1999 годзе (!), калі "Трайпл", асноўным уладальнікам якога з'яўляецца бізнесмен Юрый Чыж, увайшоў у склад заснавальнікаў і атрымаў акцыі футбольнага клуба.

Да гэтага паведамлялася, што Чыж хацеў атрымаць за клуб 1 мільён рублёў, але, што называецца, як прыйшло, так і сышло. Бізнесмен не атрымаў ні капейкі.

І тут паўстала іншае пытанне: а што далей будзе з флагманам беларускага футбола? Ці працягне новы ўласнік гэтак жа яго фінансаваць? Мінгарвыканкам апошнім часам фарміраваў бюджэт клуба, але ў той жа час хадзілі размовы пра багатых інвестараў, якія, маўляў, вось-вось ужо з'явяцца, і грошы паплывуць ракой.




Размовы доўжыліся амаль год. Сярод прэтэндэнтаў былі і Уладзімір Япрынцаў – былы кампаньён Юрыя Чыжа, і расійскі бізнесмен Міхаіл Гуцэрыеў. Але найбольш верагоднымі інвестарамі называлі некалькі ІТ-кампаній, у тым ліку і кампанію Віктара Пракапені.

Зрэшты, усё закончылася тым, з чаго і пачыналася. Бізнесмены, відаць, пралічылі ўсе рызыкі і магчымы прыбытак і вырашылі, што гульня не вартая таго, каб яе нават пачынаць. У беларускім футболе даволі цяжка зарабіць, а калі гэта і магчыма, то ўладальнік клуба павінен быць сапраўдным фанатам футбола і траціць на клуб мноства часу і фінансаў. Тут можна ўспомніць гаспадара барысаўскага БАТЭ Анатоля Капскага, энтузіязм якога трансфарміраваўся ў гучныя перамогі над грандамі футбола ў Лізе чэмпіёнаў і адпаведна у нядрэнную па беларускіх мерках фінансавую падтрымку з боку УЕФА. У лепшыя часы прызавыя даходзілі і да 10 мільёнаў еўра, і больш, а гэта дазваляла не стаяць з працягнутай рукой ля кабінетаў дырэктараў дзяржаўных прадпрыемстваў, а існаваць самастойна.

"Дынама" пры Юрыю Чыжу зорак з еўрапейскага футбольнага небасхілу не хапала, але бюджэт у яго быў адным з самых вялікіх сярод клубаў вышэйшай лігі. Аднак усё ідзе і ўсё змяняецца.

Клуб нікога не зацікавіў. І тут з'явілася новая праблема. У Мінгарвыканкама ёсць яшчэ адзін футбольны клуб – "Мінск", які таксама выступае ў вышэйшай лізе. Згодна з нашымі футбольнымі законамі, нельга, каб два клубы кіраваліся з аднаго цэнтра, а таму адна з каманд павінна пакінуць элітны дывізіён. Тая, што ў першынстве заняла ніжэйшае месца, а значыць, у такім выпадку вылет чакае менавіта "Мінск". Натуральна, што такі расклад апошніх абсалютна не задавальняе.

Зрэшты, можа быць і рашэнне, якое задаволіць абодва клубы. Кажуць, што сталічнае "Дынама" можа перайсці ва ўласнасць Міністэрства спорту і турызму, і тады праблема вырашыцца сама сабой. Хутчэй за ўсё, так і будзе. І 3 лютага на пасяджэнні выканкама Беларускай федэрацыі футбола ў гэтай сітуацыі збіраюцца паставіць кропку.

**Алесь СІВЫ.**

Фота: vk.com/fc_dinamominsk

СКАНДАЛ

# Олимпиада для Вадима Лихорада уже закончилась?

*За полгода до Олимпийских игр тренерский штаб сборной Беларуси по тяжелой атлетике получил удар ниже пояса.*

Напомним, что в этом году Игры пройдут в Токио с 24 июля по 9 августа. Из-за того, что белорусская команда по тяжелой атлетике была завсегдатаем допинговых скандалов, на эту Олимпиаду нашим тяжелоатлетам дали только две лицензии – мужскую и женскую.

На единственную мужскую олимпийскую путевку претендовали четыре спортсмена – **Андрей Арямнов, Евгений Тихонцов, Эдуард Зезюлин** и **Вадим Лихорад.**

И вот неприятная новость! Международная федерация тяжелой атлетики сообщила, что призера чемпионата мира по тяжелой атлетике 2018 года белоруса **Вадима Лихорада** отстранили от соревнований из-за подозрений в употреблении допинга.

26-летнего белоруса обвиняют в использовании анаболического стероида дегидрохлорметилтестостерона, обнаруженного в пробе спортсмена.



Кстати, в прошлом году стало известно, что в организме одного из лидеров сборной Беларуси по греко-римской борьбе **Кирилла Грищенко**, который завоевал золотую медаль на Европейских играх-2019, обнаружили точно такое же вещество – дегидрохлорметилтестостерон. Его тренер позже назвал это «диверсией», сам атлет тоже отрицал факт принятия допинга.

Стоит отметить, что этот препарат – анаболический агент, применение которого запрещено Всемирным антидопинговым агентством. Анаболик способствует увеличению силы и росту мышечной массы. К слову, именно у тяжелоатлетов препарат всегда был особо популярен.

*«Для меня сейчас приоритет – Олимпийские игры, не зря ведь их называют главным стартом четырехлетия*, – заявил не так давно Вадим Лихорад в одном из интервью. – *Главное – не расслабляться...»*

В тренерском штабе нашей команды пока не комментируют эту ситуацию, отмечая, что *«в этом деле пока еще не все ясно»*.

Конечно, всегда остается надежда, что обвинение – следствие ошибки допинговой лаборатории, но, как показывает практика, чтобы доказать свою непричастность к принятию допинг-препарата, спортсмену нужны или железные аргументы, или как минимум маленькое чудо.

Например, уличенная в допинге 11-кратная чемпионка мира по гребле на каноэ **Лоренс Венсан-Лапуант** на днях была признана невиновной в употреблении запрещенных веществ. Канадская спортсменка сумела доказать, что способствующий набору массы допинг-препарат передался ей… во время полового акта с бывшим бойфрендом. Был сделан вывод, что Венсан-Лапуант *«стала жертвой заражения третьей стороной»*, и канадку полностью оправдали.

Остается верить в лучшее и Вадиму Лихораду…

**Алесь СВЕТЛАНИЧ.**

В ЗАПАС

## Отслужился…

Вчера А.Лукашенко подписал Указ об увольнении со службы в органах внутренних дел в запас по возрасту с правом ношения установленной формы одежды и знаков различия генерал-майора милиции **Ивана Подгурского**.

Последняя его должность – первый заместитель министра внутренних дел – начальник криминальной милиции.

НЕСПОРТИВНО!

## Футболисты брестского «Динамо» устроили потасовку с игроками «Слована»

В самом конце второго тайма между соперниками произошел конфликт: Сергей Кисляк зацепил футболиста «Слована», тот упал на газон и в отместку ударил белоруса ногой в район паха. За полузащитника Бреста вступился Павел Савицкий – он уложил на траву обидчика. Тут же подбежал новичок «Динамо» Элис Бакай и схватил за горло противника. Игроков разнимали судьи и запасные.

В итоге главный арбитр удалил с поля игрока «Слована» и Кисляка, но вместо белоруса ушел Бакай.

Сбор брестского «Динамо» в Турции продлится до 3 февраля. Впереди у команды матч против самарских «Крыльев Советов».

НУ И НУ!

## И водка из-под полы…

53-летний житель Слуцкого района решил поправить свое финансовое положение, торгуя продуктами по селам и деревенькам. Приезжал в населенные пункты на собственном фургоне, открывал его – спеши, народ, покупай, кому чего надо!

Вроде бизнес как бизнес. Но на днях сотрудники ОБЭП остановили автофургон. И, как оказалось, не зря. Нашли в машине 19 бутылок российской водки без акцизных марок Республики Беларусь. После этого осмотрели дом и подворье предприимчивого торговца и обнаружили еще 90 таких же бутылок. Водку изъяли.

Материал проверки по данному факту находится в ИМНС по Слуцкому району. По закону за такого рода правонарушения грозит штраф до 50 базовых величин.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

ЗАКУЛІССЕ

# Чым закончылася гісторыя з абвінавачаннямі ў адрас Віталя Шчэрбы?

*Шасціразовы алімпійскі чэмпіён распавёў пра наступствы скандалу, у які ён патрапіў у мінулым годзе.*

Нагадаем, што беларускі гімнаст Віталь Шчэрба ўжо доўгі час жыве ў ЗША і мае там сваю гімнастычную школу. А скандал грымнуў у кастрычніку мінулага года, пасля таго як чэмпіёнка свету і алімпійская чэмпіёнка па спартыўнай гімнастыцы Таццяна Гуцу *(яна, дарэчы, таксама жыве ў ЗША. – **Аўт.**)* напісала на сваёй старонцы ў "Фэйсбуку", што 27 гадоў таму Шчэрба згвалціў яе падчас спаборніцтваў у Штутгарце.

Праўда, затым Таццяна Гуцу ў інтэрв'ю ўкраінскаму тэлеканалу "1+1" прызналася, што ўжо шкадуе аб сваім прызнанні.

*"Я вызвалілася ад гэтага жудаснага адчування прыгнечанасці, але шкадую, што назвала яго імя,* – сказала Гуцу. – *Гэта было шмат гадоў таму, і я спадзяюся, што ён стаў іншым чалавекам і што гэтая памылка – выключэнне з яго правілаў жыцця".*

Тым часам Віталь Шчэрба збіраўся падаць у суд на Таццяну Гуцу, а зараз распавёў, чым закончылася гэтая гісторыя.

*"Усё гэта, безумоўна, паўплывала на мой імідж,* – цытуе шасціразовага алімпійскага чэмпіёна by.tribuna.com. – *З маёй школы гімнастыкі бацькі дзяцей не забіралі, бо людзі, якія прыводзяць іх у залу, выдатна ведаюць, хто я такі. Але словы Таццяны вельмі моцна ўдарылі па міжнародных спаборніцтвах, якія я арганізоўваў. Дзяцей стала менш прыязджаць, і прыйшлося ад спаборніцтваў адмовіцца.*

*Зараз я не маю права каментаваць гэтую гісторыю.*



*Я падаў на Гуцу ў суд, і ў выніку з ёй заключана пагадненне, згодна з якім ні яна, ні я не можам адзін аднаго каментаваць у прэсе. Калі яна парушыць пагадненне, то зноў будзе судовае разбіральніцтва.*

*Падобныя гісторыі вельмі моцна сапсавалі рэпутацыю многім людзям. І некаторыя выказванні рабіліся дзеля таго, каб кагосьці прыбраць з бізнесу. Бо тут ніякіх доказаў не трэба. Адна скажа абы-што, а іншыя, хто не валодае сітуацыяй, павераць, і шкода ўжо нанесена".*

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

